

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

25 СТУДЗЕНЯ 2002г. № 4/4138 КОШТ 275 РУБ.







# Сядзіба менскіх музаў

Музычны завулак, 5. Гучыць? Нібы менавіта для іх, апякунак Музыкі ды Тэатра, прыдумалі гэткі адрас! А як тут гожа, утульна, казачна-таямніча... Уявіце сабе куток Верхняга горада, старасвецкі фасад сядзібы-музея Ваньковічаў, што патанае ў сумётах, за якія цягнецца і вядзе кудысьці няроўны шнурочак чалавечых слядоў. Куды? Мабыць, на край зямлі. Бо далей жа нічога няма: толькі строма ды змялелая Свіслач пад ёй. Гэтак здаецца. А насамрэч — калі ўхопішся за той “шнурочак”, дык вокамгненна патрапіш у незнаёмы горад!

Прыгожая, быццам калядны падарунак, трохпавярховая камяніца стаіць тут ужо каля 190 гадоў. За два стагоддзі яе аблічча, вядома ж, мянялася, як мяняліся і домаўладальнікі, і жыхары. Сярод насельнікаў, між іншым, была і сям’я Манюшкаў, якая нейкі час наймала тут цэлы паверх. З пачаткам першай сусветнай вайны ў будынку размясцілі губернскі прызыўны пункт. У 50-я гады XX ст. ацалелы трохпавярховік нагадваў вялізную камунальную кватэру, якая доўгі час дапамагала вырашаць жыллёвыя праблемы мінчукоў, што, дарэчы, уратавала яго ад разбурэння “горадаперабудоўшчыкамі”.

Апошні дзесятак гадоў будынак № 5 па Музычным завулку, здавён і немаведама чаму называны “домам масонаў”, рэстаўраваўся. І вось — грунтоўная праца (экспертыза фізіка-хімічнай лабараторыі, пошук гістарычнай праектнай дакументацыі, падбор будаўнічых матэрыялаў, узгадненне рэстаўрацыйных задач з падрадчыкамі і г.д.) завершана. Цяпер тут будзе Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. 10 студзеня ён справіў урачыстыя ўваходзіны ў свой новы дом. Падзея выдатная: не кожны год

*(Працяг на стар. 2 — 3)*





# КОЛА ДЗЁН

***Пачалася другая палова зімы, а неўзабаве і вясна. Апошнім часам пацяплела, растае снег. Аднак гэтае пацяпленне асабліва мала каго радуе. Да ўсяго, медыкі прагназуюць у канцы студзеня — лютым эпідэмію грыпу, якая будзе мець інтэнсіўны характар. Толькі за першыя два тыдні студзеня з дыягназам "вострае рэспіраторнае захворванне" ў медыцынскія ўстановы краіны звярнуліся больш як 50 тысяч чалавек. Для бясплатнай вакцынацыі групы рызыкі Міністэрства аховы здароўя закупіла 440 тысяч доз эфектыўнай вакцыны расійскай вытворчасці, запас якой быў вычарпаны ў снежні. Падчас найбольш інтэнсіўнай эпідэміі ў Беларусі на грып хварэюць каля 10 працэнтаў насельніцтва, прычым 36-55 працэнтаў хворых складаюць дзеці да 15 гадоў. За перыяд з 1995 па 2001 год ад грыпу ў краіне памерлі 64 чалавекі. Лічба немалая, але, калі вы ўспомніце, колькі спякотным летам здаровых людзей тоніцца на вадаёмах і рэчках, то зразумееце, што чалавечае жыццё залежыць ад самога чалавека і пра гэта трэба памятаць у любую пару года. Не хварэйце!***

## ПАСЯДЖЭННЕ ТЫДНЯ

Нарэшце распрацаваны ўмовы конкурсу на словы і музыку новага беларускага гімна. 15 студзеня адбылося першае пасяджэнне рабочай камісіі пад кіраўніцтвам віцэ-прэм'ера Уладзіміра Дражына. Да 1 красавіка грамадскія арганізацыі, творчыя саюзы і звычайныя грамадзяне могуць падаваць у камісію свае варыянты. Пяць лепшых будуць запісаны духавым аркестрам. Потым застануцца тры творы, з якіх будзе выбраны пераможца. Новы беларускі гімн павінен упершыню прагучаць у Дзень незалежнасці 3 ліпеня. У бліжэйшы час Савет Міністраў зацвердзіць палажэнне аб конкурсе.

## КУПЮРА ТЫДНЯ

З 21 студзеня ў нашай краіне ўвабарачэнне ўведзена новая купюра вартасцю 20 000 рублёў. Яна выраблена на спецыяльнай высакаякаснай таніраванай паперы з адценнем аліўкавага колеру з ахоўнымі валокнамі, лакальным вадзяным знакам і ахоўнай ніткай. На адным баку 20-тысячнай купюры сюжэт асноўнага адлюстравання — палац Румянцавых і Паскевічаў у Гомелі. На другім — рэпрадукцыя карціны архітэктара Адама Ідзкоўскага, аўтара праекта перабудовы палаца, "Выгляд палаца і парку" (сярэдзіна XIX стагоддзя). Банкнота ў 10 00 рублёў была ўведзена ў абарачэнне 16 красавіка 2001 года. На чарзе банкнота ў 50 тысяч?

## ДАРУЧЭННЕ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка даручыў міністру ўнутраных спраў Уладзіміру Навумаву сумесна з зацікаўленымі ведамствамі дасканала вывучыць пытанне аб мэтазгоднасці правядзення ў краіне амністыі і ўнесці адпаведную прапанову на разгляд кіраўніку дзяржавы. Пры гэтым было выказана жорсткае патрабаванне: амністыя можа быць распаўсюджана толькі на асоб, чые паводзіны не з'яўляюцца і не будуць з'яўляцца пасля вызвалення небяспечнымі для грамадства і дзяржавы. На сённяшні дзень пераглягу падлягаюць каля 25 тысяч прысудаў, вынесеных у адносінах да асоб, асуджаных да пазбаўлення волі. У мінулым годзе ў выніку такога перагляду з месцаў пазбаўлення волі было адпушчана каля 4,5 тысячы чалавек.

## НАПАМІН ТЫДНЯ

Да 1 сакавіка грамадзяне нашай краіны павінны прадставіць у падатковы орган дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе. Істотных змяненняў у падаткаабкладанні фізічных асоб у 2001 годзе ў параўнанні з папярэднім не з'явілася. Дэкларацыю сёлета павінны падаць асобы, якія атрымалі даходы з дзвюх і болей крыніц, калі іх сума перавысіла 1549920 рублёў. Стаўкі падаткаў растуць з ростам атрыманых даходаў. Калі фізічная асоба не заплаціць падаткі да 15 мая, тады трэба будзе плаціць не толькі дадатковы падатак па выніках года, але і штраф у памеры 10 працэнтаў ад сумы недаплачаных падаткаў і яшчэ пеню за кожны дзень няўплаты падаткаў пасля 15 мая. Пеня складае 0,133 працэнта ад сумы недаплачаных падаткаў за кожны дзень пратэрміноўкі. Словам, заплаціце падаткі своечасова і спіце спакойна!

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

У гэтым годзе спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Беларускі фонд культуры плануе выпусціць юбілейнае выданне кнігі Якуба Коласа "Новая зямля" на трох мовах — беларускай, рускай і польскай. Прэзентацыю кнігі намечана правесці ў Мінску, Маскве і Варшаве. Таксама будзе праведзена выстава-прэзентацыя малюнкаў да кнігі, зробленых народным мастаком Беларусі Васілём Шаранговічам.

## РАЗЛІКІ ТЫДНЯ

Апошнім часам у нашай краіне няма праблем з нафтапрадуктамі. Залогам стабільнасці стала дакладнае выкананне пагаднення аб паліўна-энергетычным балансе на 2001 год, які падпісаны ўрадам Беларусі і Міністэрствам паліва і энергетыкі Расіі. Пастаўкі расійскай нафты ў нашу краіну ў мінулым годзе склалі больш як 13 млн. тон. Такая ж колькасць паставак нафты плануецца і сёлета. Паводле разлікаў урадавых экспертаў, патрэбнасці Беларусі ў нафтапрадуктах на 2002 год складуць каля 6 млн. тон, у тым ліку ў аўтабензінах — 915 тыс. тон, дызельным паліве — 1735 тыс. тон, мазуце — 1878 тыс. тон. Нафтапрадукты, выпрацаваныя з астатняй нафты, будуць накіраваны на экспарт. Мяркуючы па лічбах і сітуацыі, якая склалася ў свеце з нафтай, то і ў гэтым годзе праблем у нашых аўтамабілістаў і ў народнай гаспадарцы з гаручым не павінна быць.

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

З 1 студзеня ўведзены новыя памеры дзіцячых дапамог. Гэта адбылося дзякуючы пераразліку, які быў зроблены на падставе "сярэдняга" мінімальнага спажывецкага бюджэту ў цэнах верасня мінулага года. Цяпер штомесячная дапамога маці, бацьку ці апекуну, якія знаходзяцца ў водпуску па доглядзе за дзіцем ва ўзросце да трох гадоў, асобам, што вучацца з адрывам ад вытворчасці, жанчынам-ваеннаслужачым і жанчынам з ліку радавога ці кіруючага складу органаў унутраных спраў складае 30700 рублёў. Гэтым жа катэгорыям грамадзян, якія выхоўваюць дзяцей адны і не атрымліваюць аліментаў, дапамога складае 38400 рублёў, а маці або бацькам-адзіночкам, якія самі з'яўляюцца сіротамі, і асобам, што выхоўваюць дзяцей-інвалідаў ва ўзросце да трох гадоў, — 46100 рублёў. Грошы, зразумела, не такія ўжо і вялікія, але гэта лепш, чым нічога...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Адбылася сустрэча кіраўніцтва творчай арганізацыі са старшынёй Полацкага гарвыканкама У. Тачылам. Уладзімір Сцяпанавіч расказаў пра тое, як старажытны горад рыхтуецца да святкавання 1140-годдзя горада, 900-годдзя святой Еўфрасінні Полацкай, рэспубліканскага свята "Дажынкі", паведаў пра план сацыяльна-эканамічнага развіцця горада, адобраны прэзідэнтам краіны.

Сёння ў сталіцы жыве і працуе нямала нараджэнцаў старажытнага горада, якія гатовыя прыняць самы актыўны ўдзел не толькі ў падрыхтоўцы да ўрачыстых дат, але і ў доўгатэрміновых праграмах, накіраваных на росквіт усіх сфер жыцця Полацка. Гэта пісьменнікі, навукоўцы, кіраўнікі ведамстваў і арганізацый, прадпрымальнікі. Сярод сумесных праектаў, у якіх яны сёлета прымуць актыўны ўдзел, — вечарына ў Доме літаратара, прысвечаная старажытнейшаму гораду і яго культурнаму жыццю, выданне кнігі "Полаччына літаратурная", выступленні пісьменнікаў-землякоў у працоўных калектывах Полацка, шэфства над мясцовым літаб'яднаннем "Надзвінне" і г. д.

У. Тачыла паведаміў, што ў школах горада будзе складзена своеасаблівая літаратурная карта, прысвечаная пісьменнікам-землякам, а там, дзе яны вучыліся, афармяць куткі, прысвечаныя іх творчасці.

У сустрэчы бралі ўдзел Вольга Іпатава, Навум Гальпяровіч, Іван Стадольнік, акадэмік НАН, дырэктар Цэнтральнага батанічнага саду Акадэміі навук прафесар Уладзімір Рашэтнікаў.

**Н. К.**

# Сустрэліся бацька і сын

Так, яны зноў пад адным небам і на адной зямлі. Яны зноў на радзіме. Бацька і сын — Адам і Максім. Легенда Беларусі, яе боль і гонар. Сустрэча адбылася ў верасні гэтага года ў Старых Дарогах, на знакамітай сядзібе Музея выяўленчага мастацтва Анатоля Белага...

Два помнікі-бюсты стаяць побач. Выява Максіма Багдановіча — фрагмент аўтарскай работы скульптара Сяргея Вакара. Бюст паэтавага бацькі — арыгінальная праца майстра Міколы Несцярэўскага. Выраб помнікаў, іх установка ажыццёўлены за кошт сродкаў кіраўніка праекта Анатоля Белага.





*На здымках: Адам і Максім Багдановічы ў Старых Дарогах.*

# Жыве слова Баршчэўскага

Постаць слыннага сына зямлі полацкай, выдатнага пісьменніка першай паловы XIX стагоддзя Яна Баршчэўскага зноў прыцягнула ў снежаньскі Віцебск вядомых пісьменнікаў і навукоўцаў з Мінска і Варшавы. Па ініцыятыве мясцовага дзяржуніверсітэта і Польскага інстытута ў Мінску ў літаратурным музеі прайшла вечарына, прысвечаная 150-годдзю з дня смерці аўтара "Шляхціца Завальні".

На многія дзесяцігоддзі імя Баршчэўскага лічылася забытым у кантэксце нацыянальнай культуры. І толькі напрыканцы XX стагоддзя яно пачало вяртацца з небыцця. Аднак лічыцца, што і сёння яго творчасць па-сапраўднаму ў нас не ацэнена. Ужо тройчы Віцебскі універсітэт ладзіў літаратурна-краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя пісьменніку-земляку, які нарадзіўся ў вёсцы Мурагі Расонскага раёна. Многае робіць дзеля адраджэння яго спадчыны першы прарэктар ВДУ прафесар А. Дарафееў, кафедра беларускай літаратуры на чале з В. Русілкай.

На гэты раз удзельнікаў вечарыны віталі першы сакратар Польскай амбасады ў Беларусі П. Гарнцарэк, дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Ц. Карпіньскі, доктар філалогіі Варшаўскага універсітэта А. Баршчэўскі, ксёндз-прафесар А. Шэўцій, віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра акадэмік А. Мальдзіс, старшыня грамадскага аб'яднання "Беларусь-Латвія" паэт С. Панізнік.

Адам Мальдзіс згадваў, што ўпершыню пачуў прозвішча Баршчэўскага ў тры-чатыры гады. На паваеннай Віленшчыне ад вёскі да вёскі хадзіў жабрак са скрыпачкай, з якім людзі ахвотна дзяліліся хлебам, бо чалавек гэты быў змагаром за справядлівасць. Загадкавая постаць праўдашукальніка Баршчэўскага не дазваляе супакойвацца сённяшняй інтэлігенцыі. Будзённая праца ў архівах Пецярбурга, Украіны, Польшчы, на думку Мальдзіса, можа праліць святло на многія таямніцы гісторыі нашай літаратуры.

Свае вершы, прысвечаныя Яну Баршчэўскаму, чыталі А. Баршчэўскі (Алесь Барскі), А. Канапелька, Д. Сімановіч, С. Панізнік. Браў слова сакратар Віцебскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Ф. Сіўко, спявала актрыса тэатра імя Якуба Коласа Л. Грыбовіч. А археолаг, дацэнт ВДУ Т. Бубенька расказала пра вынікі пошукавай работы ў наваколлі вёскі Мурагі на беразе возера Няшчарда.

— Мы знайшлі мураваны падмурак шляхецкага дома з рэшткамі кафлянай печы, — сведчыла Тацяна Станіславаўна, — які можна аднесці да пабудовы XVIII стагоддзя. Цікава, што на кафлі ёсць след гербавай выявы. Магчыма, гэта імянны герб дзядзькі Баршчэўскага, які, як вядома, стаў прататыпам шляхціца Завальні. Патрэбна больш дасканалая археалагічная экспедыцыя для стварэння музея шляхціца Завальні...

Закончылася імпрэза ў Беларускім тэатры "Лялька". Была паказана пастаноўка "Загубленая душа" паводле твораў Яна Баршчэўскага.

**Святлана ГУК**

*г. Віцебск*

# Сядзіба менскіх музаў

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)* з'яўляюцца ў нас новыя музейныя будынкі, ды яшчэ такога кшталту!

Мы трошкі паблукалі па ім перад пачаткам імпрэзы — з дазволу гаспадынь, якія штораз доўга перабіралі амаль кілаграмовую звязку "незнаёмых" ключоў, каб адамкнуць чарговую анфіладу экспазіцыйных залаў.

Белыя мармуровыя лесвіцы; белыя дзверы; светлыя сцены; асляпляльна свежая столь; залацісты паркет; смаляна-чорныя кудзеркі дэкаратыўных рашотак; нешырокія акенцы, праз якія ў новым ракурсе бачацца фрагменты гарадскога ландшафту...

Небагата ўражанняў ад экскурсіі па яшчэ не заселеным доме? Пачакайце! Ужо ствараецца экспазіцыя першага паверха, і да канца года тут мае быць узноўлена поліфанічная атмасфера народных абрадаў, з батлейкай, скамарохамі. Спрычыняючыся да вытокаў беларускай музычнай ды тэатральнай культуры, наведнікі музея змогуць не проста "праслухоўваць лекцыі", а досыць актыўна ўдзельнічаць у тэматычных экскурсіях, уяўляючы сябе ў ролях фальклорных персанажаў, старадаўніх відовішчаў ды музыкаў. З часам напоўняцца духам гісторыі ды подыхам сённяшняга мастацкага жыцця ўсе экспазіцыйныя залы.

А музыка ўжо нібыта справіла свае ўваходзіны ў новую сядзібу: чарадзейны голас флейты загучаў на пачатку імпрэзы, нібы вітаючы нараджэнне новай камернай канцэртнай залы з незямной акустыкай, якіх так бракуе ў нашай сталіцы.

Зала й сапраўды цудоўная, незвычайная, з гістарычным фасадам будынка ў якасці... унутранай сцяны! Падчас аднаўлення дома высветлілася, што адзін з яго фасадаў быў калісьці замураваны, пераўтвораны ў роўную сценку, якая схавала ў сабе і архітэктурны дэкор, і акенцы з драўлянымі рамамі. Да сценкі была зроблена прыбудова, пазней знішчаная пажарам. Для рэстаўратараў тут аказаўся ці не самы спрэчны "кавалак" работы. Фасад XIX ст. аднавілі, на месцы колішняй прыбудовы наважыліся зрабіць зімовы сад. Але, уліцыўшы спецыфіку музея, вырашылі ўрэшце стварыць залу — з "купалам" на ўзроўні высокага трэцяга паверха. Тут будуць іграць свае дыпломныя спектаклі выхаванцы Акадэміі мастацтваў, выступаць са справаздачнымі канцэртамі студэнты Акадэміі музыкі, тут змогуць ладкаваць вечарыны прафесійныя выканаўцы. Прыгожы дом зробіцца ўтульным асяродкам для беларускай культуры.

А пакуль у гэтай зале спраўлялі ўваходзіны дзве (ці, дакладней, — тры, калі ўлічыць і апякунку гісторыі) музы.

Імпрэзу вяла дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі Зінаіда Кучар. Са сваімі развагамі, павіншаваннямі, зычэннямі выступалі прадстаўнікі ўстаноў, так або інакш спрычыненых да падзеі. Сярод іх — намеснік міністра культуры РБ Валеры Гедройц, намеснік дырэктара Дэпартамента па ахове культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Ігар Чарняўскі, генеральны дырэктар акцыянернага таварыства "Стары Менск" Мікалай Вадап'янаў, галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры РБ Сяргей Вечар, аўтар архітэктурнага праекта Уладзімір Старасцін.

Гаварылі пра неабходнасць давесці да ладу стварэнне музея, дзей-

НАДЗЁННАЕ

# Прэзумпцыя віноўнасці

Амаль чатыры гады я праходжу паўз невялікі двухпавярховы катэджык, які стаіць на вуліцы Румянцава пад нумарам 4. Тут пабудаваная будка для міліцыянта, які вартуе "аб'ект". Часам яму надакучае сядзець, і ён (ці яны, бо тут працуе кругласутачная варта), разам з ахоўнікамі польскага пасольства вядуць размовы пра жыццё-быццё. Іхняя зарплата ім не падабаецца — малая. Аднойчы я пацікавілася — якая? Замоўклі. Гэта — не для "пастаронніх". Але "свяшчэнную" таямніцу разгадаць не складана — у два разы вышэйшая за заробак лімаўцаў, якія праз дарогу нясуць сваю "варту" — рыхтуюць чарговы нумар газеты.

Міліцыянты вельмі пільныя — калі аднойчы я папрасіла дазволу зайсці ў "аб'ект" пад нумарам 4, яны толькі што не настаўлялі на мяне сваю зброю, бо я — тая ж "пастаронняя", а ім сюды хадзіць "не позволено". Будынак відавочна разбураецца — як вядома, сцены сграе толькі чалавечае цяпло, а ў пакінутым доме, як кажа народнае павер'е, пасяляецца "нежыць".

А між тым тут больш за трыццаць гадоў была пісьменніцкая паліклініка, адсюль ехалі да хворага Максіма Танка і клапаціліся пра нямоглых Петруся Броўку ці Івана Мележа. Гэты дом беларускае аддзяленне Літаратурнага фонду СССР атрымала не проста так. Вось што піша былы старшыня Літфонду А. Жалязоўскі: "Камандуючы ЧБВА генерал Трацяк, па просьбе І.П. Шамякіна і добразычлівага стаўлення Машэрава перадаў памяшканне дзіцячага сада акругі пад пісьменніцкую паліклініку. Перадача ажыццявілася не як купля-продаж на юрыдычнай аснове, а як — з балансу на баланс прымітыўным актам, напалову напісаным ад рукі на адной старонцы за подпісам некага з ЧБВА і колішняга дырэктара Літфонду. Беллітфонд пры гэтым заплаціў праз Літфонд СССР ЧБВА вялізную суму — 85 тыс. руб."

Садок пераехаў у новы дом, а пісьменнікі, зноў жа за свае грошы, купілі абсталяванне і сталі ўтрымліваць сваю паліклініку.

Факт ***аплаты*** пацвярджае народны пісьменнік Беларусі Іван Пятровіч Шамякін, які ў той час быў кіраўніком Саюза пісьменнікаў.

Калі б быў суд, то ён усё роўна мусіў бы заслухоўваць ***сведкаў***.. Ды адбірала (увесь час у камп'ютэры выскоквала слова "абірала") — дзяржава. Тая, якая летась узнагародзіла І. Шамякіна ордэнам Айчыны, але прыслухоўвацца да яго слоў не захацела.

Ды нават да суда ў гэтым выпадку не дайшло — проста ***загадалі*** А. Жалязоўскаму аддаць усе дакументы на дом. Ён і аддаў.

Пытаюся — чаму? Чым цябе, Анатоль Пятровіч, так узялі? На які кручок зачапілі?

Маўчыць, апускае галаву...

Гэты дом вось ужо 4 гады мог бы служыць тым, на чые грошы ён быў выкуплены (Літаратурны фонд СССР існаваў за кошт адлічэнняў з надрукаваных кніг, а некаторыя, як, напрыклад, творы таго ж Івана Пятровіча, друкаваліся мільённымі тыражамі і давалі вялікі прыбытак як дзяржаве, так і Літаратурнаму фонду. Прыбытковым быў ужо тыраж вышэй за 10 тысяч, а яго (і значна большы) мелі ўсе беларускія аўтары, якія друкаваліся ў Маскве. У Мінску ж першыя кніжкі паэтаў і празаікаў прыбытковымі не былі, ды іх "пакрывалі" тыражы класікаў. Так што пісьменнікі ў большасці самі зараблялі на хлеб і да хлеба. У большасці — таму што былі, вядома, і тыя, хто бегаў у ЦК і "выбіваў" свае сумныя шэрыя кніжкі, якімі душылі "Белкнігу" і бібліятэкі.

Ва ўсёй гэтай гісторыі канфіскацыі асноўнае вось што.

З намі абышліся як з ворагамі. Пад увагу не прымалася нічога — ні тое, што дом № 4 па вуліцы Румянцава болей за трыццаць гадоў служыў пісьменнікам. Ні тое, што ў рэшце рэшт некаторыя дакументы знішчаны самімі ўрадавымі ўстановамі ( " по истечении времени хранения")

Шкуматалі былую паліклініку з асаладай. І ляцелі ў кучу медыцынскія карткі, нахабна выстаўляючы ўсім, хто там усталёўваў "новы парадак", пісьменніцкія хваробы, дыягназы, усе іхнія балячкі. Хто мог, ратаваў таямніцы сваіх нырак і вантробаў, хто не змог прыехаць — працу іншых хоць знішчыць тыя карткачкі, бо ёсць жа звычайная прыстойнасць у абыходжанні з людзьмі, тым больш з тымі, хто стварае духоўны фонд краіны!

Але — ці ёсць яна, гэтая прыстойнасць?!

Калі дакументы на паліклініку яшчэ маглі хаця б аспрэчвацца, то факт валодання Домам літаратара, здавалася б, не выклікаў аніякага сумнення — занадта шмат слядоў засталося, у тым ліку і водгукі прэсы. Але рашэнне суда, які адмовіў нам у праве ўласнасці, — проста фенаменальнае. Нагадаю яго ўсім, хто трохі забыўся, а хто і не ўнік у гэты "працэс мінулага стагоддзя". Які, на жаль, так і не быў належным чынам асветлены ў друку.

Наваселле ў Доме літаратара было прымеркавана да адкрыцця VII з'езда Саюза пісьменнікаў, якое адбылося 11 мая 1976 года. Ва ўступным слове народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка адзначыў: "Мы адкрываем яго (з'езд. — **В.І.**) у новым доме, які з'яўляецца пэўным падарункам з боку ЦК КПБ і ўрада рэспублікі".

Пэўным — таму што будаваўся ён на сродкі пісьменнікаў, якім, канешне, спрыяў урад — выдзеліў зямлю пад будаўніцтва, тармасіў будаўнікоў. Дарэчы, начальнік СУ—10 В. А. Кавалёў у лісце ад 16 студзеня 1997 г. піша: (гэты і іншыя дзяржаўныя дакументы на мове арыгінала): "Строительное управление №10 стройтреста №4 сообщает, что финансирование строительства "Дома Литераторов" по ул. Фрунзе осуществляла Белорусское отделение Литфонда СССР. "Вось акт Мінгарвыканкама: "Союзу писателей БССР — АВИЗО № 388. 29.VII.76 г.— УКС Мингорисполкома передаёт безвозмездно на Ваш баланс Дом литератора". А што тычыцца сродкаў, на якія ён пабудаваны, то нават Вышэйшы гаспадарчы суд у сваім заключэнні ад 28.10.97 г. піша наступнае: "В представленных материалах имеется технический паспорт от 10 июня 1976 года, выданный Бюро технической инвентаризации г. Минска, в котором указано, что владельцем нежилого здания по ул. Фрунзе, 5 является Правление Союза писателей БССР.

Однако суд считает, что "указанный документ не является правоустанавливающим документом, подтверждающим право собственности истца на здание "Дом литераторов", так как в нём ведется речь только о праве владения зданием, но не о праве пользования и распоряжения, которыми обладает собственник".

Не ведаю, дзе нарадзіўся суддзя Н.Д. Мадудзін, ці спецыяліст — юрыскансультант Пальянікава Г.І., ці начальнік упраўлення Сцяпук А.І. Якіх паэтаў яны чыталі, якія духоўныя каштоўнасці спавядалі. Ці думалі яны пра тое, што такое для нацыі пісьменнікі... Ведаю толькі — яны судзілі і абаранялі, вядома ж, не "пісакаў", а магутнага "ОТВЕТЧИКА", што ўзначальваўся і ў тыя часы тым жа І. Ціцянковым (які летась раптам стаў паборнікам свабоды і дэмакратыі), а менавіта — Упраўленне справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У гэтай справе яны абаранялі нават не само канкрэтнае ўпраўленне, а, на маю асабістую думку, права моцнага перад слабейшым, права на ПРЭЗУМПЦЫЮ ВІНОЎНАСЦІ ў дачыненні да пісьменнікаў.

А як інакш зразумець гэты "выверт"? СБП — аказваецца, уладальнік? Але вось карыстацца сваёй уласнасцю, распараджацца ёю — не можа. За яго гэта робяць "чужыя дзядзі", якія лепей разумеюць, як распараджацца "владельцами" і іхняй маёмасцю, колькі плошчы ім можна пакінуць.

Міжволі напрошваецца аналогія з пасляэвалюцыйным часам. Пасля канфіскацыі ў імя "трудового народа" ўладальнікам, бывала, пакідалі колькі пакояў. Здаецца, унучцы Рэпіна выдзелілі куток у Здраўнёве — сядзібе, к у п л е н а й яе вялікім дзедам...

З імі, "буржуямі", таксама абыходзіліся з пазіцый прэзумпцыі віноўнасці...

Але ў чым жа мы так завінаваціліся? Выступалі і выступаем супраць таго, што здавалася няправільным, недапушчальным — пагарда да нацыянальнага, занядбанне спадчыны, закрыццё беларускіх школ? Дык гэта — наша законнае права, права творцаў, адзіная зброя якіх — Слова. Сярод нас няма, наколькі я ведаю, ніводнага, хто займаўся б палітычнай дзейнасцю ў прамым сэнсе гэтага слова — гэта значыць з імкненнем узяць уладу, нейкае высокае крэсла. Наадварот — большасць бяжыць ад гэтых крэслаў, як ад маравой пошасці. Наша ўлада — гэта чалавечае сэрца, сэрца нашага народа. А тое, што пісьменнік падтрымлівае таго ці іншага палітыка, — гэта таксама не злачынства, а гарантаванае Канстытуцыяй права кожнага мець, апроч іншага, і сваю палітычную пазіцыю. Ды, зрэшты, няўжо і простая пазіцыя годнасці, прыстойнасці, перайсці якую мы проста не маем права, — гэта недапушчальная раскоша ў сённяшнія часы?!

Няўжо ўлады будуць і далей бурыць і так ужо амаль раскіданае гняздо беларускіх пісьменнікаў? Пісьменнікаў, якія ў кожнай краіне па праве лічацца х р ы б т о м дзяржавы, калі яна — нацыянальная, калі яна хоча быць вольнай і незалежнай.

Няўжо і далей будзе гаспадарыць права моцнага, права несвабоды, права гвалту?

ПРЭЗУМПЦЫЯ ВІНОЎНАСЦІ ?!

Дарэчы, менавіта з гэтых пазіцый была ў тым жа неспрыяльным 1997 годзе напісаная і дамова паміж Саюзам пісьменнікаў і новымі гаспадарамі (праўда, нас хаця назвалі "Основными пользователями". Як з гэтымі "пользователями" абыходзіліся напачатку, я пісала ў папярэднім артыкуле).

З гэтай дамовы вынікае і тое, што "основной пользователь" в установленном порядке оплачивает коммунальные услуги и расходы по содержанию здания". Гэта значыць, што, калі перапыняецца бюджэтнае фінансаванне (а менавіта з яго аплачваліся гэтыя гады камунальныя паслугі), то былых гаспадароў могуць папросту "в одностороннем порядке" ***выкінуць*** з іхняга дома. Адкуль жа пісьменнікам браць грошы? Літаратурны фонд ледзь ліпіць (толькі некалькі месяцаў таму стварылі новыя, больш спрыяльныя ўмовы гаспадарання для творчых саюзаў, ды і як у сённяшніх умовах зарабляць літаратурай?)

Сённяшнія рэаліі жыцця Саюза пісьменнікаў пакуль што такія: два будынкі ў цэнтры сталіцы вось ужо амаль чатыры гады як адабраны і перапынена фінансаванне, якое было хаця нейкай кампенсацыяй за ***адабранае***. Людзі, якім не заплацілі за працу. Адсутнасць тлумачэння, на падставе якога адбылося ***раптоўнае*** перапыненне фінансавання.

І Дом літаратара, арэнда з якога ідзе "дзядзям", і пусты дом, які вартуе кагорта міліцыянтаў — гэта няспраўджаныя літаратурныя праекты, паездкі да чытача, не выдадзеныя кніжкі, і многае іншае, чаго за гэтыя гады не атрымалі літаратары.. Гэта, урэшце, і пахаванні, якія Саюз пісьменнікаў ужо не можа забяспечыць матэрыяльна. І колькі мы перажылі пасапраўднаму трагічных сітуацый, калі паміралі адзінокія, без дзяцей і родзічаў творцы!

Пісьменнікі апошнім часам паміраюць так часта, што міжволі складваецца ўражанне, што яны навыперадкі імкнуцца ў іншы свет, больш ласкавы і прыязны, чым сённяшняя рэчаіснасць. 58 (не, я павінна напісаць гэта словамі — пяцьдзесят восем !) творцаў памерлі за тры з паловай гады. Больш чым дзесятая частка нашага саюза! Такога сапраўды не было за ўсе папярэднія гады.

І толькі на Чарнобыль, толькі на дрэнную экалогію гэта не спішаш. Прычын тут шмат. Назаву адну, але, на маю думку, істотную. Гэта —чуйнае сэрца пісьменніка, якому асабліва горка і балюча за родную мову, за будучыню свайго народа (я не бяру пад увагу кар'ерыстаў, прыстасаванцаў і т.п.) — фактар, які не ўлічваецца ні ў якіх статыстычных даследаваннях. Але ён ёсць. Ёсць і пэўная безабароннасць перад жыццёвымі рэаліямі, перад хамствам і агрэсіўнасцю. Кожны з нас ведае, як цяжка падчас выходзіць са свайго Сусвету (а толькі гэтая настроенасць на высокае, духоўнае і дазваляе нам пісаць), для таго, каб неяк уладкаваць свой побыт, бо ўсе мы жывём у свеце фізічным, матэрыяльным, які, бывае, захоплівае ў палон нават самых моцных духам. Пытанне ў тым, ***наколькі*** захоплівае. І тут я хачу прывесці ліст, які мне перад з'ездам прыслаў нехта В.Ш. з Дзяржынска (калі нехта захоча яму адказаць, то яго адрас у рэдакцыі. Я даю яго цалкам, не мяняючы ні коскі, бо тут шмат чаго для роздуму над тым, як нас усё яшчэ ўспрымаюць нашыя дасведчаныя ў многіх сакрэтах унутранага пісьменніцкага жыцця чытачы..

*" Шаноўная Вольга!*

*Даруйце мне, гэты ліст Вас расчуліць, усхвалюе, тым не менш...Хачу выказаць меркаванні і думкі напярэдадні майскага з'езду Саюза Пісьменнікаў.*

*... Геніі нараджаюцца — аксіёма. Так было, ёсць і будзе. Пры любой уладзе яны жывуць і твораць. Яны не маюць дачынення ні да ўлады, ні да Бацькаўшчыны (гэтае слова падкрэслена чырвоным алоўкам. — **В.І.**),ні да творчага саюза. Геніі (прарокі) не співаюцца. Перачытайце Біблію, каб іншы раз пераканацца ў гэтым. Ніводзін пісьменнік не піша "пад сябе". Прэмія — занадта незразумелая рэч для прарока!..Каштоўнасці — агульначалавечыя, глабальныя. Тыя, аб якіх некалі казаў Хрыстос. А каб гэтыя каштоўнасці мелі цану, трэба шмат чым ахвяраваць. Хацелася б каб у Вас вочы зрабіліся жывымі, а вушы вельмі прачулымі. Перачытайце ўважліва Евангелле ад Яна. Яно асабліва і вельмі на сэрца кладзецца.*

*Вы ўзначальваеце Саюз, які шматкуе сапраўдны талент. Кланы Вашага Саюза — нонсэнс. Калі літаратары з "Радзімы Я. Коласа" змагаюцца з мінскай групоўкай, то што гэта? А "радзіма" Гілевіча? А "зямля" заходнікаў?*

*Саюз, народжаны пры дыктатуры, атэізме, у часы панавання страху, мусіць быць рэфармаваны. На сённяшні дзень Саюз пісьменнікаў не мае аніякай рэальнай улады і незалежнасці. Рэформа пісьменніцкай суполкі —у адкрыцці новых літаратурных газет, часопісаў, выдавецтваў. Абуджайце цікавасць чытача добрымі глыбокімі творамі, цеплынёй радка. Святлом радка. Пішыце аб вечным на роднай мове — у гэтым і ёсць служэнне свайму народу, і мова ўратуецца. Літаратура (як, дарэчы, і музыка, жывапіс) дараванне Божае, а не праца дзеля санаторыя, месца адпачынку, працоўнай кніжкі...*

*Поспехаў Вам!*
*19.04.2001г.*
*В.Ш."*

Ліст гэты, вядома, у шмат чым спрэчны і надта ідэалістычны (стварыць новыя выдавецтвы лёгка толькі на паперы). Але тут ідзе гаворка таксама і аб ***несвабодзе*** пісьменніцкага Саюза. І мае артыкулы таксама аб гэтым жа.

Аб ***несвабодзе*** фізічнай.

Духоўнай.

Душэўнай.

І аб тым, на якіх асновах рэфармуецца наш саюз (а гэты працэс, можа, і не надта заўважаны намі ж, ідзе, хочам мы таго ці не. Час усё роўна пацягне нас за сабой, калі мы не здолеем усё ж хаця на мікрон апярэджваць яго. Так валок ён язычнікаў у хрысціянства, так цягнуў ён у нябыт народы, якія не змаглі адстаяць сябе).

У нас якраз гэткі ж самы час. І перад кожным стаіць пытанне — як жыць, чым кіравацца ў няпростых сітуацыях — у акружэнні, па канцэпцыі Л.Лыча, "рускамоўнай большасці". З непрыязнасцю прэсы, якая, здавалася б, павінна быць нашай натуральнай саюзніцай, але, паколькі не зазірае ў беларускамоўныя часопісы, то і на слых не ведае нават лепшых (не кажу аб проста добрых і цікавых) пісьменнікаў краіны, у якой жыве (чаго варты, напрыклад, адзін "Уличительный опрос" у "Комсомольской правде" ад 11 студзеня г.г. і выказванні І. Тумаша аб беларускай літаратуры, пададзеныя з яўнай сімпатыяй да "генія", што "обличает аборигенов".) З літаратурным невуцтвам маладых беларускіх філолагаў. З катастрафічным станам мовы, пішучы на якой, ты выглядаеш у вачах вялікай часткі нашай абрусеылай моладзі, не кажучы ўжо пра чыноўнікаў "мясцовай гадоўлі", нейкім пітэкантрапам, дыназаўрам, якому месца няма нават у музеі...

І, нарэшце, з той самай "прэзумпцыяй віноўнасці" за ўсё, у чым мы вінаватыя і невінаватыя — за "папсу" ў клубах і рэстаранах, за амаральнасць і агрэсіўнасць грамадства. За варожасць і насцярожанасць улады. За...за... за...

Але — зямля ўсё-ткі круціцца. Столькі разумных, таленавітых, адукаваных людзей, што сёння лічацца сябрамі Саюза беларускіх пісьменнікаў, павінны нарэшце стварыць ***сваё ўласнае асяроддзе***, прыцягальнае для грамадства. Каб выжыць і духоўна, і фізічна.

Мне тэлефануюць тыя, каму ёсць што прапанаваць, каму неабыякавы наш саюз. І гэта важна — што Алесь Рыбак і Лідзія Савік выказалі жаданне працаваць літкансультантамі на грамадскіх пачатках, што Леанід Маракоў прапанаваў пры патрэбе выкарыстоўваць яго машыну, а Анатоль Белы — свой офіс. Ёсць і іншыя прапановы. Але пра ўсё гэта — у наступнай размове, якая будзе доўжыцца, пакуль мы не атрымаем ад улады цвёрдага адказу на пастаўленыя пытанні, у тым ліку і аб вяртанні нашай уласнасці. Думаю, яе працягнуць самі пісьменнікі — і не толькі з нашай краіны, але і тыя, хто сочыць за падзеямі ў Беларусі, хто паважае нашых творцаў, хто перакладае нашыя творы.

І хто ў будучым — я веру ў гэта — будзе перакладаць іх, і, натуральна, чытаць, таму што калі будзе краіна, то будуць і чытачы...

**Вольга ІПАТАВА,**
**старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# БЕЛАРУСЫ

## ХАРАКТАРЫ, НОРАВЫ, МІФЫ І РЭАЛЬНАСЦЬ…

*– А хто там не ідзе?*
*– Ну гэтыя, як іх… беларусы?*
Відаць, не з Купалы…

***У дадзенага артыкула няма ні канца ні пачатку. І чытаць яго раю адпаведна: урыўкамі і з любога месца, выбарачна і похапкам, нашча і для ўзбуджэння гэткай здаровай нацыянальнай злосці. А можна і ўвогуле не чытаць, асабліва калі не вельмі цікавіць канчатковы вынік таго, што распачаў калісьці Бог на Вітаўтавай зямлі. Тым больш, што знаны "ліцьвінавед" акадэмік Карскі ледзь не век таму ў сваёй капітальнай аднайменнай працы надта пераканаўча ўсё ўсім растлумачыў…***

●

Мы ўсе — персанажы быкаўскай прозы. Жыццё на гэтай зямлі ніколі не было празрыстым, вясёлым і лёгкім. Мы прагнем экстрэмальных умоў, пікавых сітуацый, пастаянна мяжуем паміж кепскім і вельмі кепскім. У адваротным выпадку драбнеюць жыццёвыя мэты, псуецца светаўспрыманне. Літаратура, набліжаная да жыцця (ці жыццё, набліжанае да літаратуры?): кроў, снег, бруд, Сотнікаў, Агееў і Пшанічны, подзвіг, здрада, абеліск і бясконцы жураўліны крык па недасягнутым і няспраўджаным. Доўгатэрміновая барацьба з сабой. Да самазнішчэння. Пад бурныя апладысменты і ўхвальныя воклічы вельмі зацікаўленых, якіх чамусьці больш, чым нас.

А мы, хто мы такія? Можам забіць за каня для апрацоўкі ўласных сотак, здольныя знесці ўсё з уласнай хаты і прапіць увобмірг, забыўшыся на сям'ю, але адначасова здатныя і аддаць апошняе, каб кагосьці выратаваць і ашчасліўіць, гатовы пісаць ананімкі і здраджваць, рваць на кавалкі таго, хто пакваліцца на чужое, і задарма аддаць сваё. Маўчым, калі трэба крычаць і гуртавацца, льём ручаямі слёзы, калі ўсе ў свеце смяюцца ды радуюцца, і баімся, баімся, баімся…

Словам, мы — нармальныя. Нармальныя ў той ступені, у якой нармальным з'яўляецца гэты вар'яцкі свет, дзе Бог і Д'ябал — два бакі аднаго медаля пад назовам "За заслугі перад Айчынай". Застаецца высветліць, дзе тая Айчына і як да яе дацягнуцца.

Не, я не хачу жыць у краіне быкаўскіх персанажаў. Мне больш даспадобы прыдуманы свет Караткевіча. Каханне, палымяныя інсургенты, налітыя сонейкам каласы, баявыя сякеры, мяса з нажа, віно па падбародку, цёплыя матчыны словы, шоўк валасоў любай жанчыны на тваіх засмяглых вуснах ды адзіная на ўсіх Праўда…

●

– Ты, жмінда чарнявая! Па-руску табе кажу: калі не дасі пляшку — заб'ю! — сусед знізу ў дзве гадзіны ночы вучыць жонку жыццю. У поўны голас і з вельмі актыўным ужываннем ненарматыўнай лексікі.

Сусед зверху маўчыць. Яны ніколі не пачынаюць разам. Яны паважаюць невынішчальную цягу кожнага выказацца, неадкладна, эмацыянальна і без перашкод. Балазе, беларусу заўжды ёсць што сказаць. Сусед зверху маўчыць. Дух гэткага карпаратыўнага ўзаемаразумення прафесійных выпівохаў. Ён пачне заўтра. З перасоўваннем мэблі і дзіцячым енкам да ранку. Я паміж імі, я — пасярэдзіне. Не сплю — слухаю. У мяне такая прафесія. Мне падабаецца слова "жмінда". Як, зрэшты, і ў Барадуліна — "скупінда"… Знізу (ці зверху?!) б'юцца талеркі. Я — на Беларусі. І мне цяжка. Што рабіць? Спрабаваў піць з абодвума. Не дапамагае.

●

Адам Мальдзіс у ПЭН-цэнтры абвяшчае не без наўмыснай напышлівасці: "Гістарычны момант! Не магу дацягнуцца да Быкава". І прыўздымаецца на дыбачках, намацваючы на высокай паліцы асобнік з кніжнага стоса. Хвілінная барацьба з адлегласцю. Барадулін імкнецца дапамагчы. Але Мальдзіс, пераможна памахваючы томікам, задаволена канстатуе: "Дацягнуўся!"

Дзяды-патрыярхі! А дзесьці побач, тут, на Беларусі, у Мінску — і Янка Брыль, і Ніл Гілевіч. З імі ўтульна, за імі — праўда і дабрыня. Яны не падвядуць, не схлусяць. На іх трымаецца зараз усё.

Сумленне Расіі пачало няўмольна знікаць пасля смерці акадэміка Ліхачова. Сумленне Беларусі жыве. Дай яму Бог!

●

Нас вельмі шмат у грамадскім транспарце. У сталічнай падземцы, тралейбусе, трамваі пачуццё локця ў гадзіну-пік адчувальнае як ніколі. Нас няма на мітынгах, маніфестацыях і ў пікетах. Мы тут, нас пакуль шмат, але нас няма. Сюррэалізм, уласцівы толькі для Беларусі. Мы, як трава, як снег, як птушкі і казулькі. Мы — частка прыроды, нетаропкі подых вечнасці. Калі раптам які катаклізм — усё знікне, а беларусы, недаатручаныя Чарнобылем, загартаваныя інтэграцыяй і бясконцымі пошукамі аптымальнай эканамічнай мадэлі гаспадарання, застануцца насуперак усяму. Як мох на трухлявым пні, як цвіль на магільным склепе. Хто сказаў, што мох не можа разважаць, нават філасофстваваць? А вось мітынгі з маніфестацыямі — авохці мне! Законы прыроды — рэч нягнуткая. І не пра рэвалюцыю, не пра бунт, страшэнны і бязлітасны, тут гаворка, а пра эвалюцыю, паступовую і павольную. Бясконцы шлях ад прымата да чалавека, ад цвілі да нацыі. Дасканаласць не мае мяжы. Як і дэградацыя.

Дык мо не народ спараджае нацыю, а нацыя ўзнімае да належнага (чытай — чалавечага) узроўню народ? Ды толькі вось Гілевіча з Брылём для гэтага мала. Мала Барадуліна з Быкавым! Так, за іхнімі прамымі спінамі ды высокімі постацямі надзвычай утульна ды зацішна. Але жыццё трэба мацаць асабістымі рукамі. Гэта на расстрэл вядуць чарадой, а па праўду ідуць шэрагамі.

Многа нас! Мала нас! Цесна нам ды адзінока…

Дык вось, заўтра, спадарове, усе на Усебеларускі рэферэндум. Пытанне адзінае: "Хто мы, цвіль ці нацыя?" У выбары адказу просьба не вагацца!

●

Кажуць, у гомельскіх школках па 18 вучняў у класе. Старэем. За старасцю — маразм. За маразмам — вар'яцкае шчасце пасіўнага жыццясузірання. У сталічнай "спальнай" Малінаўцы, што ўшчыльную ўперлася ў аб'язную дарогу, становішча пакуль больш-менш: у класах і па 40 школьнікаў налічыць можна. Для цэнтральных раёнаў — страчаная мара. Але і Малінаўка год праз колькі пасталее беззваротна. Ужо зараз паўстае пытанне аб скарачэнні настаўнікаў пачатковых класаў…

Прагназуем будучыню. Сядзім з Віцем Шніпом у лімаўскім кабінеце і пазіраем скрозь акно на лінгвістычны універсітэт (ІнЯз — па-старому). Дык маладая наша Беларусь ці старая? Ды не, вунь колькі іх, студэнцікаў, сноўдае — чародамі ды шэрагамі. Апора і надзея, можна сказаць, залаты генафонд! Ці так усё? Амаль кожны ці кожная на ўласнай іншамарцы пад'язджаюць. Амаль усе за мяжой паспелі папрацаваць (перакладчыкі зараз — нарасхват), беларускае быццё з закардонным жыццём параўналі. Так што ў нашай хаце яны — госці часовыя!

Шніп нашым развагам рысу падвёў. Беларусь, маўляў, як вёска: дочкі ды сыны разляцеліся па нябліжнім свеце, зачапіліся, дзе цяплей ды ўежней, а ў гнілых хацінах толькі старыя засталіся, укленчаныя, глухія ды невідушчыя. Толькі адзін клопат, што дзяцей чакаць. Чакаць — не дачакацца. Вось такі, хутчэй не прагноз, а ява сённяшняга дня. Хіба ж з паэтамі спрачаюцца? А таму згодны са Шніпом на ўсе сто…

А вы кажаце народ, нацыя. Дом састарэлых, дый годзе! І не ва ўзросце справа. Нават у саракагадовых вочы губляюць бляск, знікае прага да жыцця, застаецца хваравітае жаданне насуперак і назло сабе галасаваць па любым пытанні, спушчаным зверху, толькі "за!". Сіндром прымусовага дзяржаўна-палітычнага прывіцця любові да страчанага міфу пад назовам "Беларусь"…

Беларускамоўная нацменшасць выклікае інтарэс толькі ў ахвочых да экзотыкі турыстаў з-за вялікіх гор і вялікіх акіянаў. Апошніх пастаянна турбуе пытанне, чаму першыя не ў лапцях.

●

З аўтараў нацыянальных анекдотаў мы пераўтварыліся ў герояў здзеклівых показак. І гэта таксама сіндром. Як лячыць хваробу?

Адзін з супрацоўнікаў сельгасінстытута расказвае:

– Па абавязку службы часта наведваю малочна-таварныя фермы. Загадчык адной паскардзіўся неяк у размове. Маўляў, з дваццаці даярак палова пітныя, а другая — не вельмі. І патлумачыў: тыя, якія не вельмі, пляшкай самагону за дзень абыходзяцца, а пітным і трох літраў іншым разам не хапае. Але нічога — працуюць.

Яшчэ адна жыццёвая гісторыя на мяжы з анекдотам.

Гомельшчына. Панядзелкавы ранак на калгасным мехдвары. Пад'язджае "Волга" з гарадскім нумарам. З яе выходзіць пузаты грамадзянін у дублёнцы. Моўчкі, не вітаючыся, як разбэшчаны ўвагай гаспадар, уваходзіць у майстэрню і ставіць на запэцканы варштат вялізную пляшку гарэлкі. У насцярожанай цішыні налівае маленькую чарку і вымаўляе праз губу і бязадрасна: "Патрэбны падшыпнік…" Імгненная мітусня, і шукаемае ўжо на стале. А самы хуткі і разваротлівы з абарыгенаў ужо куляе доўгачаканую чарку. "Патрэбны каленвал…" Усё паўтараецца. Праз паўгадзіны гараджанін ад'язджае з поўным багажнікам. Гэтак жа моўчкі і брыдліва, пакідаючы пасля сябе пашанотны ўсхліп удзячнага народа…

Ці не шмат я пра гарэлку? Ды не! Не пра яе гаворка, а пра звычайнае беларускае жыццё. Жыццё-анекдот, жыццё-показку…

Карацей, беларусы вам не нябогі абыякавыя! Людзі мэтанакіраваныя, жорсткія, рассусольваць не ўмеюць. Любіць — дык любіць, піць — дык піць, здраджваць — дык здраджваць. Радыкалы!

Намі, такімі зацятымі і азартнымі, вельмі лёгка кіраваць. Была б халяўная пляшка, было б што дзе беспакарана скрасці!

●

У замежжы не ведаюць пра Беларусь? Ды пляваць мне на такое замежжа! Пераканаці, той, каму трэба, даўно ведае. З часін Гусоўскага і Скарыны. А хто не ў курсе, таму й не карціць. Спытай у яго, недарэкі, хто ў іхнім штаце сенатар, як звалі прадзеда, жывуць пінгвіны ў Антарктыдзе ці ў Антарктыцы — не адкажа нават пад пагрозай расстрэлу. Не столькі па прычыне разумовай адсталасці і вузкага кругагляду, колькі з-за адсутнасці агульначалавечай еднасці ў пытаннях духу, маралі і культуры…

Калісьці маладзёнам вучыўся ў Гомельскім палітэхнікуме, на аддзяленні лесанарыхтоўкі. Пераддыпломную практыку праходзіў пад Архангельскам, у пасёлку Ярга. Богам забыты край, "сто першы кіламетр", спрэс былыя зоны, а сярод тамтэйшых насельнікаў — спрэс былыя зэкі, людзі грубыя, цьмяныя, да сентыментальнасці нясхільныя. "Адкуль?" — спыталіся ў першы дзень. "З Беларусі!" — адказаў не без нахабнага гонару. А яны мой гонар як належнае ўспрынялі. Завіталі вечарам з гітарай дый спелі мне з "Песняроў", дружна і па-беларуску: "Белая Русь ты мая…" Вось такая народная дыпламатыя. А тут яшчэ праз пару дзён прэм'ера ў мясцовым клубе — фільм "Дзікае паляванне караля Стаха" паводле Караткевіча. Стужка, прама скажам, не надта нацыянальная. Але кіназала пасля сеанса адрэагавала як мае быць: "Ура госцю з Беларусі!" Вось табе і зэкі. Тады ледзь не ўпершыню адчуў сябе гэткім місіянерам-асветнікам не абы з якой, а са святой зямлі.

Вось так я з Мулявіным ды Караткевічам (во даю, нахаба!) Беларусь у 80-м пад Архангельскам прадстаўляў.

Дык хто там пра хуткую і неадкладную інтэграцыю з Расіяй? Простыя беларусы з простымі расіянамі ніколі духам не розніліся. А наконт адзінай палітыкі з агульнай эканомікай — гэта няхай у іншых галовы баляць…

Дарэчы, аўтар слоў той "песняроўскай" цудоўнай песні — Уладзімір Скарынкін. Да сораму, толькі нядаўна пра гэта даведаўся. Той Скарынкін, які пераклаў на беларускую мову "Боскую камедыю" Дантэ і летась атрымаў за гэта ў Італіі прэстыжную міжнародную прэмію. На Беларусі гэта быццам не вельмі заўважна прайшло, а ў Італіі — фурор. Так што і ў замежжы пра нас ведаюць. Не ўсе, а тыя, каму гэта трэба, каб годнасць не згубіць.

●

Чаго хацеў Каліноўскі? Юнацкага самазацвярджэння ў спрадвечным канфлікце паміж бацькамі і дзецьмі, бясконцай улады ў межах новай вольнай дзяржавы? Прагнуў неадкладнай помсты за прыніжэнні і пакуты ў пошуках шляхецтва, марыў пра грошы, любоў і каханне?

Ды якая розніца! Галоўнае, што не сядзеў склаўшы рукі, не пазіраў абыякава, як канае ягоны народ, што не хлусіў у вочы, не хаваўся за чужыя спіны, не абяцаў невыканальнага, а сабраў людзей у шэрагі ды павёў за сабой нацыю на пошукі самай што ні ёсць мужыцкай праўды. Тады яшчэ не забыліся на смак праўды дый сапраўдных мужыкоў хапала.

Каліноўскі — не расфарбаваны ў прыемныя колеры міф. Ён не ідал і не Бог. А таму яму можна дараваць усё. А вось той невядомы і незаўважаны, хто здольны сёння на подзвіг самаахвярнасці Каліноўскага — не больш чым міф, як ні шкада.

●

Зрэшты, пра Мулявіна… Яшчэ адзін беларускі апостал. Карыстаючыся выпадкам і набраўшыся ўрэшце нахабства, не магу не прызнацца ў глыбокай пажыццёвай прыязнасці. Гэткі адкрыты і шчыры ліст ад былога шалапутнага бітніка спрадвечнаму класіку бел-рока:

*Паважаны Уладзімір Георгіевіч!*

*Вы, колішні рускі, прымусілі мяне, колішняга няўцямнага і ўяўнага беларуса, успомніць, што я беларус. Вы ведаеце, як гэта цяжка зрабіць. Іншым разам проста немагчыма. Рускі, усвядоміўшы святасць гэтай зямлі, з лёгкасцю становіцца беларусам, габрэй — таксама. Карэнны насельнік Беларусі супраціўляецца да апошняга, вынішчаючы не толькі сябе, але і ўсё вакол сябе. Наша зямля — радзіма мёртванароджаных беларусаў! І дзякаваць Богу, што на тысячу невідушчых заўжды знаходзіцца адзін з яркай паходняй у цвёрдай руцэ. І невідушчыя пачынаюць вучыцца бачыць. Вы — той адзіны на тысячу. Дзякуй Вам за Маю музыку. Макартні курчыцца ад зайздрасці, калі чуе Вашы акорды. Інакш і не можа быць на нашай зямлі.*

*Дзякуй!*

●

Вы бачылі, чулі, як маладыя беларускія маці "выхоўваюць" сваіх дзяцей? На вуліцах, пляцах і скверах? Амаль што аднолькава: куды пайшоў, нягоднік, вярніся, паразіт! Не чапай, выкінь, не падбірай, не слухай, не глядзі і ўвогуле спі ўжо ў сваёй калясцы ды не замінай жыць!

Гэта ў далёкім замежжы дзецям можна ўсё. Гэта там у іх няма аніякіх абмежаванняў у марах, рухах, паводзінах і ўчынках. Таму працэс "прарастання" асобы не хваравіты, а натуральны, імклівы і незваротны. Японец становіцца японцам, француз — французам… Беларус памірае ненароджаным. Сам і вінаваты.

●

У "ЛіМ" зайшоў Сяргей Вераціла, хворы і злы. Спытаў: "Ты ведаеш, чаму армянскае радыё спыніла працу?" І працягнуў, не чакаючы маёй рэакцыі: "Таму што габрэй, які адказваў на пытанні, з'ехаў у Ізраіль!" Мы крыху памаўчалі пра нацыянальнае. І Вераціла сышоў немаведама куды, пакінуўшы пасля сябе чатыры радкі:

***Хтосьці калісьці камусьці***
***Распавёў пра засохлае сэрца.***
***Гэты хтосьці паверыў чамусьці***
***І ізноў застаўся ні з чымсьці…***

А я яшчэ доўга разважаў пра таго габрэя, якому зараз вельмі цёпла і ўтульна ў сваім Ізраілі. І (самае галоўнае!) не трэба адказваць на бязглуздыя пытанні.

●

Даруйце за вялікую цытату. Не дзеля ганарару, а па прычыне, як думаецца, выключнай важнасці і дарэчнасці.

"…ты яшчэ можаш нешта зрабіць. Пакуль ты ведаеш, што можаш зрабіць, ты павінен гэта рабіць. Пакуль ты яшчэ памятаеш пра гэта, ты павінен… Думай пра глыток халоднай вады. Добра. Вось так яно і будзе. Як глыток халоднай вады… зрабі гэта. Зрабі! Ну, зрабі. Цяпер ужо можна. Давай, давай…"

"Па кім звоніць звон". Эрнест Хемінгуэй. Па кім звоніць звон? Па беларусах! Проста чуюць яго яшчэ не ўсе! Не бяды! Стань беларусам, ты яшчэ можаш гэта зрабіць…

●

На гэтай зямлі магла б быць Беларусь. Вялікае Княства сапраўды разняволеных і мужных людзей з адной Праўдай на ўсіх, людзей, якім не трэба здраджваць і прыніжацца, каб застацца людзьмі. І народ называў бы сябе нацыяй і рабіў бы гэта па-беларуску, не адчуваючы беспадстаўнага страху з нагоды і без яе, і ўмеў бы любіць і кахаць, думаць і суперажываць не дзеля кавалка хлеба, а проста так…

На гэтай зямлі была Беларусь.

**Яўген РАГІН**

## “Вынікі падсумоўваліся ў панядзелак”




**Іван Чыгрын, які даўно зарэкамендаваў сябе ўдумлівым і разважлівым даследчыкам беларускай літаратуры, выдаўшы пяць манаграфій, апошнім часам усё часцей выступае як паэт. Чытачы, якія ўважліва сочаць за кніжнымі навінкамі, не маглі не звярнуць увагі на яго зборнікі паэзіі “Капеж”, “Трыба”, “Бераг”, “Люблю вясну”. Нядаўна ў “Беларускім кнігазборы” з'явіўся новы, што называецца, праўда, крыху празаічна — “Вынікі падсумоўваліся ў панядзелак”, але, калі пазнаёмішся з выдавецкай анатацыяй, упэўніваешся, што такая назва апраўданая: “Жыццё, якое праходзіць праз цябе, нярэдка без важных, здавалася б, прычын, становіцца аднастайна сумным. Быў такі перыяд у жыцці героя гэтай кнігі. То чаму не расказаць пра тое людзям. Зборнік пра час і пра сябе ў часе”. А складаецца ён з твораў, напісаных І. Чыгрынам у розныя гады, пачынаючы з 70-х. Лірычны герой асобных з іх сапраўды перажывае той стан, калі, як кажуць, увесь белы свет нямілы і ад усведамлення гэтага становіцца прыкра на душы і нават часам настаюць моманты, калі роспач гатова перайсці ў адчай. І толькі старанна ўзважыўшы, як і што ёсць на самай справе, становіцца на сэрцы спакайней, прыходзіць усведамленне, што не ўсё яшчэ страчана:**

*Каго пакалоцяць, як грушу,*
*А мне дык нагой у душу.*

*Над некім смех-жарт пранясецца,*
*Мяне ж б'юць пад сэрца, у сэрца.*

*Ў парыве фантазіі злоснай*
*Не раз наракаў я на лёс свой.*

*Ды лёсу не прагну другога.*
*Другое не помню дарогі.*

*Размова з душою вядзецца,*
*І сэрца ў грудзях яшчэ б'ецца.*

**Уся кніга — гэта свайго роду “размова з душою”. Аб тым, што хвалюе і непакоіць. Аб тым, што ёсць і што павінна быць. Асобныя вершы І. Чыгрына вельмі лаканічныя, разам з тым афарыстычна напоўненыя. Як, для прыкладу, гэты:**

*Шчасця няма.*
*Шчасце недасягальнае.*
*Шчасце ў тым,*
*каб вечна цягнуцца...*
*да шчасця.*

*Або гэты:*
*На зямлі,*
*Апроч жыцця,*
*Няма*
*Больш*
*Нічога.*
*Смерць —*
*Не зямных рук*
*Справа.*

**Не сумняваюся, што сярод чытачоў знойдуцца і такія, каму такая паэзія не па душы. Асабліва гэта тычыцца тых, хто сам некалі спрабаваў пісаць вершы, ды так і не сцвердзіўся як паэт. Але, каб паэзію зразумець, мала амбіцый. Яе яшчэ трэба любіць. Дый з павагай ставіцца да аўтара і тады абавязкова знойдзеш нешта вартае ўвагі. А такіх твораў у І. Чыгрына нямала. Прытым і вершаў з выразнай сацыяльнай скіраванасцю, калі агаляюцца беды грамадства. З шэрагу іх і гэты, у якім чалавек так і застаецца сам-насам, хоць яму і трэба дапамога: “ — Людзі, дзе я? // Людзі, забярыце мяне адсюль. // Была глухая ноч. // А ён // Усё // Крычаў. // Трымаўся за промень, // Пакуль // Сонца // Канчаткова // Не прапала // За // Гарызонтам”.**

**Алег ГУЛІЦКІ**

# “Адзінокая сярод адзінокіх”

## ТВОРЧЫ ПАРТРЭТ НАДЗЕІ АРТЫМОВІЧ

“Напісанне аўтарам гэтак званай творчай біяграфіі дае няшмат альбо нічога не дае для высвятлення найважнейшых аспектаў яго творчасці”, — такая думка беларускай паэткі, нашай сучасніцы — Надзеі Артымовіч. Жыццё гэтай пісьменніцы як эмпірычна-матэрыяльнае, так і духоўна-творчае заўсёды было дыстанцыіраваным, закрытым для большасці чытацкага асяроддзя. Тая ж адчужанасць праяўляецца і ў вершах, якія і па фармальна-знешніх прыкметах, і ў мастацка-вобразным вырашэнні стаяць на ўзбочыне пракладзеных шляхоў нацыянальнай паэзіі, развіваюцца па ўласнай парадыгме. Лірыка “белавежскай” паэткі тыпалагічна звязана як з эвалюцыяй сучаснай літаратурна-філасофскай думкі, так і з развіццём паэзіі ў канкрэтным (лакалізаваным геапалітычнымі, нацыянальнымі і гістарычнымі ўмовамі) рэгіёне — Беласточчыне.

Надзея Артымовіч нарадзілася 18 лютага 1946 года. Родным мястэчкам, дзе прайшлі лепшыя гады і дзе жыве паэтка да гэтай пары, з'яўляецца Бельск Падляшскі. ...Бельск, Беласток, Белавежа, Беларусь... Колькі празрыстай чысціні, пранізлівасці нясуць у сабе гэтыя паняцці. Будучыня магла бачыцца амаль беспатэнтнай, рамантычнай, але рэчаіснасць прынесла свае змены ў лёс уражлівай дзяўчыны, запатрабавала ахвяраваць уласнымі марамі і надзеямі... Прыходзілася і цяжка працаваць, і з перапынкамі вучыцца. Пасля заканчэння курсаў у Беластоку Надзея паступае ў Варшаўскі універсітэт. Трэба згадаць, што ў другой палове пяцідзясятых гадоў на Беласточчыне распачаліся заканамерныя працэсы нацыянальна-патрыятычнага самаўсведамлення беларусаў, што выявілася ў пашырэнні грамадскага і культурнага руху. Аб'яднанне “Белавежа”, якое групавала творчую інтэлігенцыю, стварала атмасферу, дзе найбольш ярка мог праявіцца талент маладой пісьменніцы. Надзея Артымовіч належыць да другога пакалення “белавежцаў”.

Першы зборнік Н. Артымовіч быў польскамоўны і меў шматзначную назву: “У сне, у болі слова” (Беласток, 1979). Творчасць беларускай аўтаркі выклікала цікавасць у чытачоў і крытыкаў, якія ўпэўнена правялі тыпалагічныя падабенствы лірыкі беластачанкі і наватарскай польскай паэзіі. Беларускамоўны томік вершаў “Роздумы” (Беласток, 1981) прэзентаваў арыгінальнага мастака слова, пісьменніцу, якая адшуквала шляхі даследавання рэчаіснасці і чалавечай сутнасці, што былі зусім яшчэ не зведаныя нацыянальнай літаратурай. У вершах Н. Артымовіч няма тугі ці самоты па жыццёвых, аўтабіяграфічных канкрэтах. Прыватныя, а значыць — прамінальныя моманты ці факты ледзь абазначаюцца ў тэкстах. Светаадчуванне беластоцкай аўтаркі напоўнена, як уяўляецца, абстрактным сумам, экзістэнцыяльнай тугою і адзінотаю. Разам з тым, гэты сум — на мяжы адчаю — зусім рэальны, непадробны. Чытач, які здольны яго адчуваць, не можа ў яго не верыць, бо балючы стогн чуецца і ў *“набалелым корані восені”*, і ў *“чорных лістападах”*, і ў *“небяспечнай лёгкасці летняй пары”*.

***над антыкварыятамі***
***выказаных слоў***
***плывуць бронзавыя хмары***
***час продажу надзеі ўжо мінуў***
***у бяспалых руках самотная іржа***
***сляды без слядоў***
***адзінокая сярод адзінокіх***

Імператыў адчужанасці, асэнсаваны філасофіяй XX ст., надзвычай важны ў паэзіі “белавежанкі”. Зарыентаваная на чаканне катастрофы, на бессэнсоўнасць многіх чалавечых памкненняў лірычная гераіня Н. Артымовіч знаходзіцца ва ўвесьчасным пошуку. Гэты шлях незваротна вядзе ад аб'ектыўных навакольных рэалій да суб'ектыўных душэўных калізій. Знешні свет перастае існаваць як суцэльнасць, ператвараецца ў ілюзію. Яго фрагменты яшчэ здольныя ўздзейнічаць на свядомасць гераіні, але гэта не гарантуе адэкватнага ўспрымання ці адлюстравання. Свету адмаўляецца ў сапраўднасці і значнасці. Ён ператвараецца ў бутафорыю, закінутае і забытае сховішча пыльных дэкарацый, куды ўвесь час паступаюць новыя рэчы: *“адыгрывае тэатр аднаго акцёра // перад сабой”; “вечныя манадрамы з рэквізітам // разбітым збанком”; “механічныя сэрцы паўтараюць свой цырк”*. Такая ява не заслугоўвае перажыванняў і дапамогі, тым больш, што ёй яны і не патрабуюцца. Свет развіваецца, рухаецца, жывіцца нейкімі ілюзіямі, а лірычная гераіня імкнецца выйсці з гэтага псеўдаіснавання. Таму рэчаіснасць складаецца з *“рассыпаных пейзажаў”*, вылучаных з агульнай плыні хвілін, нечаканых гукаў і колераў, успамінаў-трызненняў. Каб перадаць такое светаадчуванне патрабуецца, відаць, незвычайная паэтычная мова.

***Ікона***
***лістападаўскі снег***
***блакітны ранак***

***сон аднакрылы і лёгкі***
***у блакітным люстры***

Верш Н. Артымовіч уяўляецца часткай суцэльнага маналога-медытацыі. Кожны тэкст, радок ці слова пакідаюць прастору для далейшай паэзіятворчасці ці роздуму. Здаецца, што паэтка не гаворыць, а маўчыць вершам. Умаўчанне ў семантычна-вобразным полі, паўзы і пропускі ў структуры тэксту павінны ўзбагачаць твор. Але гэта можа адбыцца толькі пры ўмове, што чытач будзе адпаведна настроены, падрыхтаваны. Не лёгка даецца для разумення лірыка Н. Артымовіч, але нават пры недасканалым успрыманні яна пакідае адчуванне незваротнасці, нервовасці. Паэтка не дае адказаў, але, здаецца, і не просіць іх. Яна не верыць у станоўчыя вынікі любых намаганняў, таму яе пазіцыя ў дачыненні да эмпірычнай рэальнасці надзвычай пасіўная. Паказчык гэтаму і адносна невялікі творчы набытак, і амаль раўнадушнае стаўленне аўтара да літаратурнага лёсу ўласных твораў. Духоўны партрэт Н. Артымовіч пазначаны прыкметамі катастрафізму, фатальнасці, амаль не жаночай рэфлексійнасці. Лірычнае *“Я”* паэткі не стасуецца з аб'ектыўнай рэчаіснасцю. Навакольны свет пастаянна змяняецца, і гэтыя трансфармацыі не прыносяць, як уяўляецца, станоўчых наступстваў. Таму гераіня твораў *“белавежанкі”* ўсё настойлівей імкнецца заглыбіцца ва ўласную экзістэнцыяльную прастору.

Новы зборнік паэткі з'явіўся ў пачатку дзевяностых — **“Сезон у белых пейзажах”** (Беласток, 1990). Для чытача ж Беларусі паэзія Н. Артымовіч па-сапраўднаму адкрылася толькі ў 1993 годзе, калі з'явілася кніга **“З неспакойных дарог”**. Імкнучыся хоць прыкладна акрэсліць абсягі пакутлівага мастацкага пошуку, вершы заключаны ў тэматычна-сэнсавыя цыклы: *“Ой, ляцелі гусі”, “Варажу з вятрой”, “Рассыпаныя пейзажы”, “У блізкіх крыніцах”, “На скрыжаванні дарог”*. Пачынаецца зборнік самым першым апублікаваным творам паэткі “Ой, ляцелі гусі”, які ў свой час выявіў асноўныя паэзіятворчыя прынцыпы і прыкметы, што пасля трывала замацуюцца ў далейшай творчасці беластоцкай аўтаркі. У яркай экспрэсіўнай форме злучаюцца рэальнасць і мара, неверагоднасць цуду і радасць надзеі. Колькі энергіі, маладой прагнасці да жыцця, гатоўнасці да крэатыўнай дзейнасці, веры ва ўласныя магчымасці чуецца ў гэтых перарывістых, як рытм адчайнага танца, радках. Магчыма, для твора маладой паэткі закончыць на такой ноце ўжо было б дастаткова, але Н. Артымовіч імкнецца глыбей асэнсаваць экзістэнцыю чалавека, узняць яшчэ адзін пласт рэчаіснасці. Таму жыццесцвярджальны настрой змяняецца на меланхалічна-філасофскі: *“і калі ўпадзем // на зямлю чорную // мы ўбачым // свет // вялікі // і мы без крылаў...”*

Надзея Артымовіч настойліва эксперыментуе з формай і структурай тэксту. Пазбягаючы знакаў прыпынку, кампазіцыйна ўзмацняе сэнсавую нагрузку асобных слоў, радкоў, частак верша. Пры выразна наватарскім падыходзе да знешняй будовы тэксту, выкарыстоўванні унікальных прыёмаў, паэтычны свет Н. Артымовіч грунтуецца на традыцыйных літаратур-




# Не складвай крылы, ластаўка!

З беларускіх пісьменнікаў, якія ў сваёй творчасці не абыходзяць праблем школьнага жыцця, адно з першых месц належыць Міхасю Зарэмбу. І гэта невыпадкова. Міхась Мікалаевіч, маючы вялікія мастакоўскія задаткі, не на словах ведае тое, пра што піша. Пасля заканчэння ў 1965 годзе аддзялення журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта ён працаваў літаратурным супрацоўнікам рэдакцыі газеты “Піянер Беларусі” (сённяшняя “Раніца”), а пасля загадваў аддзелам школьнага і піянерскага жыцця гэтага аўтарытэтнага выдання. Аб тым, што працаваў, як кажуць, з поўнай аддачай, яскрава сведчыць і тое, што ў 1978 годзе яму было прысвоена ганаровае званне “Выдатнік народнай адукацыі”. Дый калі ў 1989 годзе звязаў свой лёс з выдавецтвам “Юнацтва” (цяпер з'яўляецца вядучым рэдактарам), не застаўся ўбаку ад жыцця сучаснай школы, бо даводзіцца рэдагаваць нямала рукапісаў, звязаных зместам з ім. А яшчэ ахвотней піша пра хлопчыкаў і дзяўчынак, а таксама падлеткаў сам. З цікавасцю юнымі чытачамі былі сустрэты кнігі аповесцяў і апавяданняў М. Зарэмбы “Камандзір зялёнага патруля” (1967), “Загадка без адгадкі” (1972), “Пераправа” (1987) і іншыя. І вось у выдавецтве “Юнацтва” выйшла чарговая кніга вядомага празаіка “Рыжая ластаўка”, што складаецца з трох аповесцяў.

З першай з іх, “Дзень магнітнай буры”, можна было пазнаёміцца яшчэ ў 1992 годзе, калі яна з'явілася ў тым жа “Юнацтве”. Цяпер жа прадстаўлена разам са сваім працягам — аповесць, што і дала назву ўсёй кнізе. Тым самым атрымалася дылогія “Рыжая ластаўка”, галоўная гераіня якой — трынаццацігадовая вясковая дзяўчынка Вера з дзіўным, “птушыным” прозвішчам Ластаўка. Уласна кажучы, паходжанне гэтага прозвішча і паўплывала на разгортванне падзей у другой аповесці. А пакуль дзяўчынка жыве ў роднай вёсцы з прыгожай назвай Луг, вучыцца ў школе.

Не сказаць, каб жыццё песціла Веру. Наадварот, не зважаючы на юны ўзрост, яна нямала перажыла. Пакутуе, што малодшы брацік Паўлік, якога вельмі любіць, у чатыры гады так і не навучыўся хадзіць і гаварыць. Яшчэ больш цяжка на душы ў дзяўчынкі ад усведамлення, што бацька п'янствуе і ніякія ўгаворы нічога не даюць. Атрымліваецца быццам нейкае замкнутае кола, у сілавое поле якога трапіла Вера і ніяк не можа вырвацца. А яна ж з тых падлеткаў, якія б у іншых, больш спрыяльных умовах, маглі б раскрыцца многімі цудоўнымі рысамі свайго характару. Хоць чаму раскрыцца? М. Зарэмба з цеплынёй пішучы пра сваю гераіню, пераканаўча паказвае, што Вера Ластаўка вартая добрых слоў. Яна і працавітая, і паслухмяная. Ды і ў школе не апошняя вучаніца.

Аповесць “Дзень магнітнай буры” якраз і цікавая тым, што пісьменнік, не абыходзячы складаных рэалій сённяшняга дня, адначасова падкрэслівае: нават, калі не ўсё ладзіцца ў сям'і, натуры моцныя, дзейсныя здатныя не зламаюцца. Канечне, пры ўмове, што поруч з імі знаходзяцца дарослыя, гатовыя заўсёды прыйсці на дапамогу, асабліва аказаць маральную падтрымку, якая так шмат значыць. Духоўная апора Веры — яе маці Кацярына Іванаўна. Паколькі муж Павел Рыгоравіч п'янствуе, яна вымушана цяжар выхавання трох дзяцей (ёсць у Веры яшчэ і брат Сярожа) узяць на сваё плечы. Спагаднае слова дзяўчынка можа знайсці і ў дырэктара школы Апанаса Сяргеевіча — таксама чалавека спагадлівага, сумленнага.

Несумненныя вартасці аповесцяў М. Зарэмбы (у першую чаргу аповесці “Дзень магнітнай буры”) у тым, што аўтар аднолькава псіхалагічна праўдзіва паказвае як свет дзяцей, так і свет дарослых. Ідучы ад самога жыцця, ён нічога не прыхарошвае, застаючыся прыхільнікам такога падыходу, калі кожная сітуацыя, кожны выпадак дакладна выверaны, а пэўныя ўчынкі з'яўляюцца лагічным праяўленнем і разгортваннем характараў. Не абыдзена і праблема так званых “цяжкіх” падлеткаў.

Адзін з іх Сенька Абабурка, якога ўсе ў вёсцы празвалі Боўдзілам. Абабурка ад нараджэння слаба разумова развіты, таму і разлічвае на сваю беспакаранасць. Гарадскія ж акселераты (вызначэнне М. Зарэмбы) Кекс і Пепс — іншага поля ягадкі. Гэтыя лічаць сябе выключнымі па той прычыне, што маюць у горадзе ўплывовых бацькоў. Страшнае ў тым, што да пары да часу на паводзіны тройцы, якая ў сваіх свавольствах не ведае межаў, многія ў вёсцы не звяртаюць увагі. І гэта таксама праблема, якую не абыходзіць М. Зарэмба. Мяшчанскае правіла “мая хата з краю” не дазваляе людзям зірнуць далей уласнага носа. Яшчэ небяспечней, што ім пачынаюць кіравацца і службовыя асобы. Таму і атрымліваецца, што Вера Ластаўка гатова даць бой хуліганам, а ўчастковы ставіцца да ўсяго так, нібыта нічога не здарылася, хоць гэтыя падлеткі паспелі ўкрасці ў археолагаў вельмі рэдкую бронзавую статуэтку воіна, якую тыя знайшлі ў час раскопак: “...Вера зразумела, што міліцыянер пасміхаецца, што ўся гэтая размова для яго — каб толькі час прабавіць ды павыхваляцца сваім красамоўствам. Вось памянташыў языкам, і яго аж на дрымоту пацягнула, ды кваску халодненькага захацелася. Балабол — хоць і ўчастковы. На такога няма чаго спадзявацца, чакаць ад яго дапамогі. Яму загад патрэбны”.

У Веры ж Ластаўкі — іншы загад. І яго не падаюць зверху, ён сам з'яўляецца. Гэта — голас сумлення. Дзяўчынка сама шукае прыстанішча нягоднікаў, выходзячы на Ласінае ўрочышча, дзе жыве ляснік Ігналь і дзе тройца п'янствуе. Тым самым у аповесці дзеянне набывае дынамічнасць, нечаканыя сюжэтныя павароты, а гэта даказвае, што М, Зарэмба з'яўляецца не толькі тонкім псіхолагам. Ён умее належным чынам зацікавіць чытача, а пэўны час трымаць яго і ў невядомасці, калі адзінае жаданне, якое не пакідае цябе, гэта хутчэй даведацца, што будзе далей.

Дынамізм яшчэ ў большай ступені ўласцівы аповесці “Рыжая ластаўка”, дзеянне ў якой адбываецца не толькі ў сапраўднасці. Вера, якая ў час пажару, калі гарэла родная хата, страціла прытомнасць і ніяк, нягледзячы на намаганні ўрачоў, не можа прыйсці ў сябе, трапляе на Планету ластавак. Наконт апошняга ў канцы твора аўтар робіць такое ўдакладненне: “А ці адбывалася ўсё гэта ў сапраўднасці? Ці проста праявілася ў мроях-летуценнях Веры Ластаўкі пасля пажару і закружыла яе, далікатную і чуллівую, у чарадзейным віртуальным свеце... Як і з'яўленне сталічнага прафесара з ягоным нейравізарам і плазменным промнем... Фантастыка, анамальная з'ява? Што тут сцвярджаць, а што адмаўляць?”

Чытачу даецца мажлівасць самому вырашыць, як да ўсяго ставіцца. Але ў адным нельга сумнявацца: М. Зарэмбу ўдалося добра перадаць пераход галоўнай гераіні з рэальнага свету ў віртуальны. Вера ж неаднойчы задумвалася, чаму мае такое прозвішча. І рыжая ластаўка, якая пастаянна з'яўляецца на экране прыбора, што сочыць за дзяўчынкай, якая знаходзіцца ў бяспамяцтве, як і тая, якая вядзе яе ў невядомую краіну, на Планету ластавак — гэта лішняе пацвярджэнне, наколькі ў жыцці ўсё ўзае-

ПРОЗА

# КАСІЎ ЯСЬ

Леанід МАРАКОЎ



1992 год. Глыбокая восень. Пражэктары слізгаюць па бетонных скалах недабудаванага аэрапорта “Мінск-2”. Злева ад забытай людзьмі і Богам пабудовы прытаілася аграмадная жоўтая “чарапаха” — ангар-склад, перабсталяваны пад залу чакання, сектары прылёту і адлёту, міліцыю, мытню, білетныя касы, багажню, бар, туалеты і іншае. За чарапахаю — лётнае поле. На ім танцуем мы, эміратчыкі. Чакаем, дрыжым, сінеем. 00.17 мясцовага часу, 00.30. Пранізлівы холад, вецер, што валіць з ног, сляпучыя камякі снегу. Не Мінск, а поўнач Аляскі (а што, і там бывалі!). Чакаем.

Нарэшце з завірухі-туману выплывае бела-серабрысты — у лёдзе, — бы здань, “Ікарус”. Ускокваем, спатыкаемся, падаем. Смех — ужо добра. Пад’язджаем да роднага “ТУ-134”. Узбягаем-рассаджваемся з хуткасцю гуку. Саграваемся. Радуемся першай супакойлівай ластаўцы: “Пасажыры, прышпіліцеся, калі ласка...” Цяплее…

Разганяемся. Узлятаем. Мы — у небе! Цяпер ім нас не дастаць! Ура! Свабода! Нал-лівай!..

— Э, дзелавыя, у каго мая “капуста”? — узлятаюць з некалькіх месцаў неспакойныя галасы.

— Тэпайце сюды, хлопчыкі, — самавіта азываецца хтосьці па прозвішчы Банкір з хваста самалёта. — І кілішачак дзядзьку не забудзьце наліць, — адкрывае ён, пасміхаючыся, пачак “Філіп Морыс”.

●

— *Касіў Ясь канюшыну!..* — не спяваў — гарлапаніў я праз гадзіну пасля ўзлёту.

— *Ка-асіў Ясь канюшыну, паглядаў на дзяўчыну!* — перабіваў мой віскат, падскокваючы каля ілюмінатара, Ігар. Быццам сапраўдны дырыжор, махаў-памагаў сабе рукамі. У немалой ступені ён ім і быў. План, куды і па што крутануцца, пры гэтым не застацца дурнем і не быць падвешаным за ногі ў выніку нерэнтабельнага выкарыстання чужых фінансаў, спеў і выспяваў у ягонай светлай галаве.

Мытня! Атас! Мы прайшлі мытню! Прарваліся! Прадзерліся! Прабіліся! Налівай!

— *А дзяўчына жыта жала…* — узняў Ігар аэрафлотаўскую шкляначку з гарэлкаю. — *А-а дзяўчына жыта жала…* — чокнуўся са мною, — *ды на Яся паглядала!*

Ігар рызыкаваў меней, але б застацца і яму без галавы пры абломе. Мяне ж у выпадку залёту жыўцом падсмажылі б. Ён нёс 56, а я — 92 тысячы тых самых, зялёных.

Мытня! Мытня! Мытня!
Грошыкі! Грошыкі! Грошыкі!
Дзе? Дзе? Дзе?
Няма-а-а!!!

●

— Здымі абутак, — ці то загадаў, ці то параіў мне шчанюк з парай зорачак на пагонах. — Цяпер — шкарпэткі. Не бянтэжся, ты ж не дзеўка-цнатліўка. А можа, паразумнееш і сам раскажаш, куды бабулькі схаваў? Тады хоць і не паляціш з усімі, затое пры сваіх застанешся.

“Пры сваіх” — гэта не да нас, — сам сабе пасміхнуўся я. — “Пры сваіх” мы праходзілі ўжо, даволі ў жабрацтве сліны наглыталіся”.

Шчанюку адказаў:

— Вы, няйначай, быццам амерыканец той: усё ты, ты… У чым прызнавацца, калі няма ў чым?

Гаварыў даверліва і спакойна. А ў душы ўсё спявала: на пакет з прадуктамі, што стаяў перад “тэлевізарам”, хлопец не звярнуў ніякай — нуль! — увагі. Не ўсёк, тупіца! А ў ім і была ўся соль. Праверылі, да прыкладу, твае сумкі-чамаданчыкі, махнулі: “Праходзь!” Ты і пайшоў. Толькі пакецік з хатняю каўбаскаю прыпадняў і пайшоў. А рэчы — хэ! — няхай глядзяць-шнырацъ. Работа такая: у чужых рэчах корпацца. Патрашы чаўнака-зажору. Вось і гэты ўбачыў з паўгадзіны назад, што ў маёй пары сумак чыста, і датумкаў: “Пры сабе, відаць, разумнік трымае “капусту”. “Пройдзем”, — замітусіўся. І — дарэмна пагнаў хвалю. Яму б, стратэгу зоркаму, пачакаць, пакуль я запаветны пакецік у рукі вазьму і ўжо з ім патэпаю. А так, даруйце-выбачайце — пралёт. Пакет у зону не ўвайшоў: яго Ігар, які стаяў на падстрахоўцы, нагою да сябе падсунуў. Адрэпэціравана!

— Дарэмна, дальбог, час траціце, — адагнаў я набеглае было хваляванне (а калі Ігар не падсунуў?). — Раптам у гэты самы момант сапраўдныя кантрабандысты праз вашы парадзелыя кардоны прабіраюцца?

— Ты чуў? — павярнуўся малады мытнік да такога самага сабрата-наваб-ранца. — Парады дае, жыць вучыць, здзекуецца. Абарзеў! Відаць, да практолагаў нераўнадушны, хоча, каб да яго ў с… залезлі.

“Хоць і незвычайна нахабныя, але зелень-зеленню, — спакайней забілася маё сэрца. — Ці ж у гэтае месца можна 92 “тэ” засунуць? Парвецца месца, па швах разыдзецца, ні ў адной бальніцы не ўратуюць…”

— Да дактароў, праўда, неабыякавы, век бы іх не бачыць, — цягнуў час. — А стараецеся вы, паўтараю, дарма! Як на споведзі кажу: пры сабе толькі пяцьсот дазволеных для правозу без дэкларацыі долараў, нават менш — сёе-тое ўжо ў бары пакінуў.

— Спявай песеньку, спявай, чаўнок ты наш залаты, — не суніmaліся ўчэпістыя хлопцы. — Не хочаш прызнавацца — воля твая. Выклікаем доктара. Сам на медагляд напрасіўся.

“Так і ёсць, звыш меры борздыя, — засмуціўся за іх — не за сябе. — Такіх наездчыкаў яшчэ не страчаў. Што ж, хлопцы, з вамі далей будзе? Так можна і да старасці не дажыць. Высмыкнеце, ачысціце якога нервовага, каму губляць няма чаго, ён вас і прыкончыць — грошы ж не абы-якія круцяцца. Сустрэне калі-небудзь абрабаваны вас ля пад’езда…

Зрэшты, гэта не мая гісторыя…

А што ж у нас наклёўваецца?

Напалохалі хлопца — добра! — але ж час і адпускаць. Дэбілу зразумела: пасажыр не торгаецца, спакойны, а таму бабкі наўрад ці пры сабе заціснуў…”

— Так, хлопчыкі, зніклі! — уваліўся нарэшце ў “катоўню” Дзімка. (“Фу-у!” — здрадліва вырвалася ў мяне.) — З гэтым я сам разбяруся.

— Мы тут, Дзмітрый Мікалаевіч, амаль яго раскруцілі. Можа…

— Не можа. І круціць будзеце дзяўчатам галовы або сабе вусы, як вырастуць, а кантрабандыстаў выяўляюць. І давайце-давайце, ідзіце да стоек. Шэфу толькі што зверху тэлефанавалі: рэйс не затрымліваць. Гэтым самалётам сын вялікага чалавека ў вясельнае падарожжа ляціць. Папярэдзілі: каб ніякіх эксцэсаў! А тут я разбяруся.

Учэпістыя хлопчыкі панура зніклі, і Дзімка падышоў да мяне. Самы раз было выпусціць пару:

— Малайчына! Дзе цябе носіць? Я ледзь на смаркачах не пагарэў! А каб салагі накінуліся на пакет з ядою?

— Не крычы, тут я ўсё ж начальнік. З пакетам усё нармальна: Ігар яго падхапіў — не разгубіўся… А спазніўся з-за мымры сваёй. У яе сёння дзень нараджэння, вось ні з таго ні з сяго і вырашыла ўразіць гасцей нябачнаю — пад нейкую галівудскую зорку — прычоскаю. Раніцай пайшла ў цырульню. Сказала — на гадзінку-паўтары, а з’явілася праз тры. Забіць мала. Пасля імчаў сто пяцьдзесят, ледзь машыну і сябе не ўгробіў — ты ж папярэдзіў, колькі гэтай ходкаю бярэш. Жах! Я і Мікалаю званіў, каб падстрахаваў цябе, калі не паспею даехаць. Дык ён — захварэў. Ну, думаю, магіла! Але ўсё, дзякуй Богу, абышлося. Хоць — не зусім. На двух у шэрых плашчах каля стоек звярнуў увагу? “Нашы” хлопцы, гэбэшныя. З рэвалюцыі *той* ніяк не супакояцца. Шнырацъ, вышукваюць, хто ад лапаў дзяржавы пару капеек спрабуе ўтаіць. І няма ім, няўрымслівым, спакою. Між іншым, работа ў іх такая — сабачая… Пяройдзем да нашых, чалавечых пытанняў. Ты зараз для канспірацыі паспрабуй хоць фэйс крыху скрывіць. Уяві, быццам табе па галаве дубінкаю мянтоўскай урэзалі. Тады, калі *гэтыя* ў твой бок кінуць вокам, падумаюць, што мы цябе ўжо вычысцілі і зноў душыць не палезуць. Пакажы твар. Тое, што трэба! Проста артыст!. Але — не мітусіся без прычыны, усё будзе нармальна. Ідзі, з Богам!

Двое на мяне нават не зірнулі: былі занятыя іншымі кліентамі, больш дакладна — кліенткай. Адна наша (з новенькіх) нафарбавалася пад ляльку Барбі, прыбралася, як валютная прастытутка ў начны рэстаран, і горда падплыла да стойкі. Дурніца разлічвала сваёй абаяльнасцю непрабіўных “двухзорачнікаў” улажыць. А ўлажылі — яе. Барбі схавала ў касметычцы пяцёрку тысяч “лішніх грошай” і забылася — пакінула яе ў сумцы з адзеннем. А тую, вядома ж, прасвяцілі і засеклі вузельчык патайны.

Зіркаты мытнік, атрымаўшы адступнога, хутчэй за ўсё адпусціў бы ляльку, ды вось няўдача: хлопцы ў плашчах умяшаліся (сына знатнага таварыша падстрахоўвалі, а тут трапіўся шанц вызначыцца). Цяпер усё пойдзе па поўнай праграме: паўторны, ужо татальны шмон, за ім — пратакол, канфіскацыя, а далей — як карта ляжа. Можа так легчы, што і да кратаванага неба дойдзе. Артыкул жа сур’ёзны: у асабліва буйных памерах. Для нас — на жаль — іншых няма. Мы ж ворагі дзяржавы! Адначасова і лепшыя сябры масаў. Паспрабуй, купі танней! Але ж цана гэтаму “танней” часам бывае непамерна высокай…

Шкада было Барбі, але пры мытным даглядзе ёсць няпісаны закон, правіла, умова: кожны сам за сябе. Жыццё гэтак завязала-абавязала. Былі выпадкі, сёй-той расслабляўся, спрабаваў падаць руку тапельцу, вырваць з ваўчынай пашчы друга-таварыша. У выніку цярпеў поўнае фіяска: залятаў сам і нярэдка яшчэ каго-небудзь пад разборку ўцягваў. А вы ведаеце, што такое трапіць пад разборку? Гэта — быццам у цябе адрэзалі частку цела, скажам — нагу. Нават, бадай, горш. Бо жывуць і без ног, а вось пасля разборак хто-кольвек гэты свет пакідае…

Памятаю, як білася галавою аб падлогу, рыдала, стагнала такая ж самая, як і гэтая злоўленая Барбі (усё ж трагічнае падабенства некаторых лёсаў!), размаляваная прыгожая дзеўчынёха. Па нявопытнасці забылася “купіць” дэкларацыю на права вывазу валюты і, у дадатак, у спешцы лішнія купюркі схавала так, што нават салагі знайшлі іх за некалькі хвілін. А грошай амерыканскіх аказалася нямала: хацела зарабіць не толькі на хлеб з маслам, але і гардэробчык абнавіць. Вось і абнавіла. Апошняе страціла. Абчысцілі галубачку да ніткі…

А Барбі “плашчы” падхапілі і, быццам тэрарыстку, павалаклі “за кулісы”.

Як яна залівалася слязьмі, вырывалася, маліла, прасіла! Знаёмая тут сцэна, нярэдкая. Але мытня, як і Масква, слязам не верыць. Я ведаў, што дома ў Барбі засталіся маці-пенсіянерка і двое хлопчыкаў, ведаў, што ў кожны прыезд дзецям уручаліся падарункі, і разумеў: гэтым разам не дачакацца ім яркіх пакетаў з цацкамі. Можа быць, не прыедзе і мамка, доўга не прыедзе. Але што я мог зрабіць? Заляцелай красуні ўжо нічым не паможаш. Шакалы ўчапіліся за яе моцна. Дзеля чарговай зорачкі яны і роднага брата на часткі разарвуць. А мяне дома таксама чакаюць двое малых…

Задушыўшы ў сабе “небяспечны на выніку” ў дадзенай сітуацыі жаль, я накіраваўся ў залу чакання, якая ўяўляла сабою некалькі радоў былых кінатэатраўскіх крэслаў. Мой і Ігараў пакеты з ядою аб’ядналіся ў адзін, ён ляжаў цяпер між намі. Выклічуць на пераправерку Ігара — ён возьме толькі сваю сумку. А пакет чый? Пакет — не яго. Высмыкнуць паўторна мяне, прыхаплю толькі свой бавульчык: пакет — не мой. Нават прайшоўшы мытню, расслабляцца не спяшайцеся: вас могуць высмыкнуць з залы чакання*. Яны ўсё могуць, але не ўсё ведаюць, а тыя, што ведаюць, — маўчаць. За тое, каб тыя, што знаюць, “не ведалі”, даводзіцца ўключаць іх апетыты-веды ў сабекошт тавару.

“Інфармацыя — гэта грошы”, — думаюць некаторыя.

“Інфармацыя — гэта болей чым грошы”, — сцвярджаюць знаўцы.

“Інфармацыя — гэта ўсё!” — кажуць багатыя.

“Інфармацыя — гэта жыццё!” — кажу я.

“Інфармацыя — гэта добрае жыццё!” — ведаюць выбраныя…

●

— *Ці ты Ясь, ці ты не...* — матляў галавою ап’янелы Ігар.

— *Ці ты Ясь, ці ты не,* — абагнала і праспявала яго Ліля, — *спадабаўся ты мне!*

На час “гастроляў” Ліля рабілася Ігаравай “жонкаю”. Збліжаліся яны адразу пасля ўзлёту; развітваліся — за хвіліну да пасадкі на роднай зямлі.

А дома ў Лілі быў муж — заводскі інжынер-рабацяга, які цягнуў на худых пракураных плячах усё КБ, але не цягнуў і трэці рэальнага сямейнага пражытачнага мінімуму. Ён жыў нармальным шэрым даперабудовачным савецкім жыццём і чыстасардэчна лічыў, што менавіта ягонымі стараннямі ў сям’і ўсе апранутыя, абутыя, не галодныя, а па выхадных умінаюць апельсіны і бананы. Ліля з ім ніколі не спрачалася, ніколі нічога не тлумачыла і нават па-свойму кахала яго. Але ў паездках адрывалася ад нудотных будняў, дазваляла сабе крыху развеяцца. Не супраць быў адпачыць ад жонкі-выхавальніцы (“Ох і заляціш ты калі-небудзь з поўнай канфіскацыяй!”) і Ігар. Вось такая “сямейная пара”, даволі тыповая для эміратчыкаў.

Дзіўна, як яны абое мяняліся, калі вярталіся ў Мінск і сыходзілі з трапа самалёта. Уражанне было такое, што гэтыя двое не толькі не ведаюць адзін аднаго, але і ўвогуле псіхалагічна несумяшчальныя. Ігар — вечна расшпілены, расхрыстаны, шумлівы; Ліля — сама сабранасць, акуратнасць, строгасць, спакой. Флірт фліртам, а сем’ямі эміратчыкі даражылі…

(Заканчэнне на стар. 12)



Малюнак А. КАШКУРЭВІЧА

## Падарункі робім разам

Напэўна, адным з самых цудоўных "музычных дарункаў" І. С. Баха слухачам свайго часу і наступных пакаленняў была створана ім у 1734 годзе "Калядная араторыя". Твор прывабны перш за ўсё тым, што напамінае людзям пра мажлівасць цуду, нараджае веру ў сапраўднае шчасце, усяляе надзею на лепшае...

Доўгі час свята Раства з-за палітычных, ідэалагічных прычын у нас як быццам і не існавала. Але апошнія 10 гадоў хрысціяне ўсіх канфесій на Беларусі афіцыйна адзначаюць светлы дзень Божага Нараджэння. Гэтым жа разам усіх вернікаў і меламанаў чакаў сюрпрыз.

Да свята быў прымеркаваны канцэрт з удзелам сімфанічнага аркестра "Маладая Беларусь", хору нашай Акадэміі музыкі і салістаў, якія пад кіраўніцтвам германскага дырыжора Георга Майса выканалі даволі папулярны твор Баха — "Калядную араторыю".

Не сакрэт, што аптымальнай канцэртнай залай для музыкі гэтага кампазітара з'яўляецца памяшканне храма, бо пісалася яна перш за ўсё для выканання ў царкве. Таму не дзіўна, што ў якасці сцэны для "Каляднай араторыі" быў абраны касцёл святых Сымона і Алены.

Дарэчы, калядныя святы ў Германіі раней (як і цяпер) складалі "вялікі цыкл": 6 дзён доўжыліся святочныя набажэнствы і разыгрываліся народныя дзействы са спевамі. Кожнаму такому дню і прысвечаны асобныя часткі араторыі. У якасці сюжэта Бах выкарыстаў фрагмент з Евангелляў ад Лукі і ад Мартфея. Кожная з шасці частак (якія яшчэ завуцца кантатамі) змяшчае сольныя і харавыя нумары. У даволі багатай канцэртнай практыцы склалася традыцыя выконваць тры першыя часткі араторыі — як інтанацыйна найбольш цэласны цыкл. Музыканты не адышлі ад традыцыі і на гэты раз. І ўсё было б зусім нядрэнна, калі б не сапраўдны "калядны холад", які ўрэшце адчулі артысты і слухачы нават у памяшканні.

Што ж было незвычайнага ў выкананні? Па-першае, гэта партнёрства нашага хору і замежнага маэстра. Спадар Майс прадэманстраваў строга акадэмічную манеру дырыжыравання, крыху нязвыклую для нашых выканаўцаў. Мабыць, на стылістыку паўплывала строгасць гучання музыкі Баха, і такая трактоўка падкрэслівала уласцівыя ёй якасці. Па-другое, спецыфічным было само гучанне твора — на яго значна паўплывала акустыка касцёла. Здавалася, што музыка нібы лунае ў прасторы.

Асобна скажу пра сольныя нумары. Вобразы, створаныя салістамі (Настасся Масквіна — сапрана, Аксана Бондарава — меццa-сапрана, Ян Нялепа — тэнар, Анатоль Галкін — бас), сапраўды ўражвалі. У тых жа сольных эпізодах, дзе спявала Аксана Бондарава, на памяць прыходзіла шмат аналагічных старонак музыкі Баха — радаснай, урачыстай.

Нарэшце, нельга не адзначыць, што творчыя кантакты беларускіх і заходнееўрапейскіх музыкантаў робяцца даволі частай з'явай. Выканаўцы не толькі гастралююць, гасцююць у краінах адно аднаго, але і разам музіцыруюць (аркестр "Маладая Беларусь" ужо трэці год дае калядныя канцэрты ў Германіі пад кіраўніцтвам Г. Майса, нямецкі дырыжор — даволі часты госць на беларускай зямлі). Не толькі абмен творчым досведам аб'ядноўвае людзей, але і музыка — такая, як музыка Баха, што нараджае светлыя пачуцці ў сэрцах і адчуванне сапраўднага свята — у душы.

**Ігар ПАРФЯНЮК,**
**студэнт Беларускай акадэміі музыкі**

ФЕСТЫВАЛІ

# У чаканні сонца драматургіі

## НАТАТКІ З ІІ ФЕСТЫВАЛЮ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ДРАМАТУРГІІ ІМЯ В. ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА

**1.**

Заснежаны Бабруйск запомніўся мне шэрым, халодным горадам. Зімовае сонца, якое заўсёды ўзнімае настрой, бадзёрыць, паказалася тут толькі ў дзень ад'езду. А ўсе чатыры фестывальныя дні яно нахабна хавалася за аблокамі, дазваляючы старым гарадскім будынкам сталінскага рэнесансу ствараць блытаніну ў часе. Несумненна, толькі ў сапраўдныя часы ліхалецця (ці бесчасоўя) мог з'явіцца гэты дзіўны будынак ля Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча. І якому ж гэта выдумляку прыйшло ў галаву надбудаваць на руінах праваслаўнай царквы цагляныя шэрае памяшканне?! Кожны дзень, праходзячы ля гэтага "архітэктурнага франкенштэйна", я міжволі ўздрыгвала. Бо і на тэатральнай сцэне ўзнікалі амаль падобныя на гэты будынак-монстр персанажы. Як прыгнечаны, скароны пад цяжарам іншага будынка праваслаўны храм, так і героі беларускіх п'ес пра сучаснасць былі прыгнечаны ці то несправядлівым жабрацкім жыццём, ці то уласнымі нядобрымі памкненнямі, якіх прагнулі пазбавіцца. І яшчэ адзін шанц выправіцца, наноў пакахаць, выбрацъ ні зло, а дабро даваў ім нехта звыш...

І ўсё ж, нягледзячы на гэта, на сцэне панавала атмасфера пустаты быцця, духоўнага змроку, якая ўплывала на настрой у глядзельнай зале. П'есы, якія былі напісаны ў пачатку і сярэдзіне 90-х гадоў XX стагоддзя здаваліся цяпер не такімі злабадзённымі. Бо сучасныя драматургі мусілі занатаваць нешта з праблем часовых, а не вечных...

**2.**

Менавіта таленавітыя рэжысёры падцягнулі да прыстойнага ўзроўню, напоўнілі дадатковым сэнсам п'есы пра сучаснасць. Напрыклад, на "круглым стале" па выніках фестывалю крытыкі ў адзін голас запісалі ў героі вядомага рэжысёра Р. Таліпава, які з непрыкметнай п'есы Г. Марчука "Каханне маё нешчаслівае" зрабіў сімпатычны спектакль "Восеньскі блюз" (Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча). Таліпаўская малюнкі з правінцыйнага жыцця ўвабралі ў сябе апельсінавы колер сонца, духмяны водар ракі... Рэжысёр прыдумаў цікавую сцэнаграфію: на сцэне па крузе павольна плыве вялікі карабель, на палубе якога — і пляж з адзінокім "грыбком", і танцавальная пляцоўка. Плыве карабель жыцця. П'яны карабель. Карабель дурняў-ідэалістаў. З "п'янага" карабля на бераг аднаго беларускага правінцыйнага гарадка сышла Ніна Карпаўна (Г. Агейкіна). Пасля смерці мужа ў бутэльцы з гарэлкай жанчына мусіць "утапіць" сум па няшчасным, няўдалым мужы. На караблі дурняў-ідэалістаў весяліцца пад музыку са стужак Таранціна правінцыйная моладзь, якая наіўна верыць у тое, што "зялёныя" можна вельмі лёгка зарабіць (махляр-бізнесоўца паабяцаў падлеткам трыста даляраў, калі яны за адзін тыдзень прыдумаюць тры словы з канчаткам "зо"), што каханне заўсёды будзе шчаслівым (дарэмна маладая аптэкарка паверыла ў пачуцці "халастога" шкіпера, якога ў іншым гарадку чакае сям'я), што будучы падманшчыкам, можна жыць у згодзе з самім сабой. Менавіта дзякуючы выяўленчай выдумцы рэжысёра, добра падабранаму музычнаму афармленню схематычныя персанажы п'есы, непраўдападобныя эпізоды "узнімаюцца" да нечаканых паралеляў. Бо з п'есы Г. Марчука Р. Таліпаў не выкінуў ніводнага эпізоду, дзеі на сцэне ідуць адпаведна драматургічнаму тэксту. Канешне, смешнымі ўяўляюцца ўсе гэтыя надуманыя дыялогі-разважанні падлеткаў аб жыцці (тым больш, што моладзь у спектаклі іграюць акцёры далёка не падлеткавага ўзросту), просценькія меладраматычныя сітуацыі, якія імкнуцца глыбока перажываць акцёры. Але міжволі рэжысёр прымушае засяроджацца ці то на трагедыі саракапяцігадовай Ніны Карпаўны, якая, як многія з яе пакалення, страціла арыенціры ў новым жыцці ("Мне кепска... моташна... уратуй мяне... Божа... Усе злыя, усе нядобрыя... Навошта я сюды прыехала. Уратуй..."), ці то на вобразе яе пасынка Пётры, якога школьны сябра парайноўвае з Пячорыным (акцёр А. Волчак прадстаўляе "героя нашага часу" маўклівым, замкнёным, поўным супярэчлівых пачуццяў юнаком). На сцэне рэжысёр Р. Таліпаў толькі набліжае драматургічны твор да філасофскай прытчы пра карабель-жыццё, які вандруе ў бездані часу...

Мінскі рэжысёр А. Гарцуеў многім раіў не глядзець свой новы спектакль. П'еса А. Дударава "Кім", якую ўвосень рэжысёр паставіў на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Купалы, выклікала шмат спрэчак. Многім гэты драматургічны твор падаўся вельмі сентыментальным, ілюзійным, спозненым у часе па ўзнятых у ім праблемах. І першая пастаноўка "Кіма" на сцэне Мінскага абласнога драматычнага тэатра (спектакль быў паказаны на тэатральным фестывалі "Маладзечанская сакавіца-2001") пацвердзіла гэтыя ўяўленні. Гісторыя А. Дударава, разыграная маладымі акцёрамі ў сентыментальных дэкарацыях, выглядала прыдуманай. Аднак на фестывалі ў Бабруйску я ўбачыла зусім іншага "Кіма", прачытанага рэжысёрам, які добра адчувае наш час. У новым сцэнічным варыянце п'еса вытрымана ў стылі расійскіх крымінальных тэлесерыялаў, набліжана да кліпавай мітусні жыцця. Амаль танцавальныя сцэны "разборак" паміж дзвюма крымінальнымі суполкамі, рэзкія, грубыя рухі акцёраў напоўнілі сцэну агрэсіўй рэчаіснасці. Гарцуеў, які летась паставіў вельмі жорсткі, эмацыянальна напружаны спектакль "Брат мой, Сімон...", здаецца, свядома адмаўляецца ад сентыментальных акцэнтаў у "Кіме". Яму не патрэбны слёзы замілавання гледачоў, яго не хвалююць уздыхі наконт жудаснай экалогіі, якая калечыць здароўе моладзі. Спектакль Гарцуева хочацца параўнаць з "Гернікай" Пікаса, на якой вострыя, непрапарцыянальныя фігуры складаюцца ў моцнае па узрушэнні палатно. Галоўная мэта рэжысёра — трапіць у нагу з часам, жыць на сцэне ў адным рытме з сучаснасцю. Таму ў спектаклі "Кім" усе персанажы такія пазнавальныя ў жыцці. Стыльна апранутыя ў моднае цяпер чорнае скуранае адзенне бізнесоўца Каралёў — стомлены ад злосці, нянавісці, пустаты існавання чалавек. Акцёр А. Кавальчук увасабляе чалавека-ваўка, якога неўзабаве перараджае прыгажосць, душэўнае хараство, сардэчная цеплыня ўзнёслай Юлі (С. Зелянкоўская). Але купалаўская актрыса не стварае вобраз наіўнай дзяўчынкі, "анёла", "святой", у бок якой насамрэч ніколі б не паглядзеў "круты" Каралёў. Гераіня С. Зелянкоўскай — сучасная, раскаваная дзяўчына, якой хапае смеласці на многае: і выхоўваць дзетдомаўскіх дзяцей, і кахаць бандыта, і змагацца з цяжкай хваробай. А гаваркі вундэркінд, шаснаццацігадовы хлопчык Кім (М. Гузоўскі) у Гарцуева ўяўляецца своеасаблівым антычным "хорам", які тлумачыць гледачам, аналізуе сцэнічнае дзеянне. І самае галоўнае — Кім не "выбіваецца" са складу персанажаў, а даволі арганічна суіснуе з усімі героямі спектакля, ствараючы, прынамсі, непаўторны дуэт з гарэзлівай Ленай (Г. Хітрык).

Камедыя-дывертысмент А. Паповай "А-ла-ла-ум" у сцэнічным варыянце сталася сучаснай прытчай пад назвай "Успамін аб Вавілоне". Кароткую гісторыю пра тое, як па волі прышэльцаў бедны, неўладкаваны інтэлігент Лапушанскі заняў месца больш удачлівага ў жыцці школьнага сябра Бядулі, рэжысёр У. Савіцкі прачытаў даволі ўдумліва, па-філасофску. Звычайна п'есы А. Паповай на сучасную тэму ставяцца ў сацыяльным рэчышчы. Кватэра, хатні халат, неўладкаваны побыт — нязменныя атрыбутыка такіх спектакляў. У п'есе "А-ла-ла-ум" дзеянне таксама адбываецца ў кватэры, але драматург вынаходліва аздабляе яго элементамі фантастыкі.

Калі ў п'есе толькі згадваюцца прышэльцы, то ў спектаклі Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра яны з'яўляюцца з усіх герояў на сцэне першымі. Іншапланецяне зноў прылятаюць на зямлю. Адзін з іх успамінае пра мінулы візіт — пра Вавілон, у якім было лепш, чым цяпер. Прынамсі, тады людзі звярталі ўвагу на людзей, дапамагалі адзін аднаму, спачувалі. Прышэльцы не пазнаюць зямлю. Разам з мастаком В. Цімафеевым рэжысёр уводзіць гледача ў свет, дзе над людзьмі ўладараць рэчы. (На працягу спектакля ўздоўж сцэны будуць рухацца людзі ў цэлафанавых плашчах, цягаць кантэйнеры з прадуктамі.) На сцэне кватэра, якая больш нагадвае склад у краме, альбо па-майстэрску ўпрыгожаную скрыню для смецця. Відавочна, што ў п'есе А. Паповай рэжысёра перадусім цікавіць вобраз сучаснай інтэлігенцыі. Менавіта ад пераждытага сораму — зневажальнага пазычання грошай у заможнага Бядулі (А. Палкін) няўдачнік Лапушанскі з роспачу крычыць у неба, што не хоча жыць. Нечакана, нехта зверху дорыць нябогу-інтэ-

# Сяргей КАВАЛЁЎ: "Я пішу толькі п'есы, якія б сам хацеў паглядзець у тэатры"

***Першапачаткова гутарка з беларускім драматургам С. Кавалёвым павінна была тычыцца першай кнігі яго п'ес. Але напрыканцы II Фестывалю нацыянальнай драматургіі імя В. Дуніна-Марцінкевіча стала зразумела, што з'явілася яшчэ адна падстава для сустрэчы: С. Кавалёў стаў адзіным з прызнаных беларускіх драматургаў, каго адзначыла журы фэсту...***

**— Сяргей, як глядач, якія спектаклі вы б хацелі бачыць сёння ў нашым тэатры?**

— У мяне ёсць даволі рэдкая для пісьменніка рыса — я люблю бываць у тэатры. Мне падабаюцца спектаклі, якія не даследуюць рэчаіснасць, а яе ствараюць, "пераствараюць". Спектаклі, у якіх была б паэзія, элементы гульні, так званыя лудычныя прадстаўленні. Беларуская ж драматургія раней была пераважна сацыяльнай, злабадзённай. Таму мяне больш прыцягвалі ў юнацтве замежная драматургія і класіка. Дарэчы, я пішу толькі п'есы, якія б сам хацеў паглядзець у тэатры.

**— Вашыя п'есы ў асноўным прысвечаны старадаўнасці. Чаму вы абмінаеце XX стагоддзе? Напрыклад, 30-я гады мінулага стагоддзя, калі была знішчана беларуская інтэлігенцыя. Беларуская п'еса, якая б смела распавядала пра гэтую трагедыю, яшчэ не напісана.**

— Як філолаг я займаюся вывучэннем літаратуры рэнесансу. У п'есах я выкарыстоўваю матывы і алюзіі з літаратурных твораў XVI — пачатку XX стагоддзя. Мне здаецца, гэта вельмі патрэбна нацыянальнаму тэатру, бо пашырае ўяўленне пра беларускую культуру, пра мажлівасці драматургіі.

У мяне была задума стварыць цыкл п'ес, падставай для якіх сталіся б літаратурныя тэксты, а не толькі падзеі рэальнага жыцця. На працягу дзесяці год я напісаў сем п'ес для дарослага гледача. У 1991 годзе адбылася пастаноўка "Звар'яцелага Альберта" ў Гомелі. Потым былі напісаны "Трышчан ды Іжота", "Балада пра Бландою", "Саламея", "Стомлены д'ябал", "Францішка, або Навука кахання", "Тарас на Парнасе". Гэта будзе зборнік гермeнеў-

лігенту не столькі дарагую адзежу, колькі каштоўную магчымасць тварыць суд над Бядулямі. Кволы, нязграбны Лапушанскі з жаночым ботам у руцэ (згарэлая кватэра героя — сімвал бясконцага жабрацкага існавання) прагне справядлівасці ў жыцці. І яго справядлівасць у тым, каб той, хто здуваў у яго некалі канспекты, нахабна пад'ядаўся ў іх доме, пачаў урэшце мыкацца, а ён — атрымліваць асалоду ад жыцця. У свой час рускі філосаф Лосеў адзначаў, што "ў інтэлігента рука сама сабой цягнецца да таго, каб вырваць пустазелле ў цудоўным садзе чалавечага жыцця". Вырваць пустазелле, значыць — судзіць?! Аднак А. Папова іранізуе: а суддзі хто? Бо насамрэч інтэлігент Лапушанскі хоча стаць такім, як Бядуля. Заняўшы месца школьнага сябра, Лапушанскі (акцёр Р. Белацаркоўскі цудоўна перадае душэўныя метамарфозы свайго інтэлігента) з радасцю упадабаў і ягоны бязглузды фантанчык у кватэры, і заляцанні прыгажуні Норы (Г. Лабанок), былой палюбоўніцы Бядулі. І самае смешнае, што жонка Лапушанскага, калі вяртаецца дадому, звяртае ўвагу ні на голую дзяўчыну ў абдымках мужа, а на заможныя рэчы, якія нарэшце з'явіліся ў яе кватэры...

Не, нездарма напрыканцы спектакля, калі героі атрымліваюць магчымасць змяніць будучыню, зверху, куды адлятае касмічны карабель, сыплецца смецце, шматлікія рэчы — ідалы сучаснага жыцця, падпарадкаванага ўладзе грошай. Бо ўсе спектаклі на сучасную тэму якраз распавядаюць пра тое, як людзі "гінуць за метал", з якой цяжкасцю пераадольваюць выпрабаванне багаццем, нават нягледзячы на аптымістычны фінал іх гісторый...





**3.**

А вось стваральнікам п'ес на гістарычную тэму аптымістычныя фіналы не даспадобы. Калі рэчаіснасць яшчэ хочацца ўпрыгожыць, то гісторыю мусіш даследаваць, вывучаць, пераасэнсоўваць ці гуляць з ёю. Што якраз і робіць вядомы беларускі драматург С. Кавалёў, які прысвячае свае творы асобам значным у гісторыі Беларусі, але малавядомым сучасніку.

Відавочна, што творчыя тандэмы: драматург Кавалёў — рэжысёр Жугжда, Кавалёў — Бакіраў даволі ўдалыя. А. Жугжда, А. Бакіраў даволі ашчадна ставяцца да тэкстаў С. Кавалёва; у сваю чаргу драматург цалкам задаволены сцэнічнай інтэрпрэтацыяй п'ес.

У п'есе "Францішка, або Навука кахання" С. Кавалёў вяртаецца да улюбёнага матыву — падабенства жыцця на тэатр. А. Жугжду падабаецца гуляць з гэтай думкай. Новая пастаноўка рэжысёра ў Гродзенскім абласным драматычным тэатры зроблена ў стылістычнай манеры, знойдзенай ім у "Трышчане", калі на сцэне мы бачым яшчэ адны тэатральныя падмосткі. А акцёры так нечакана ператвараюцца ў сваіх персанажаў і наадварот, што ўжо і не адрозніш, дзе жыццё, а дзе тэатр. У спектаклі "Навука кахання", прысвечанай асобе Францішкі Уршулі Радзівіл, стваральніцы першага прафесійнага тэатра ў Вялікім Княстве Літоўскім, А. Жугжда з радасцю выкарыстоўвае прыём "тэатр у тэатры". Неўзабаве за вясёлым тэатральным відовішчам на сцэне з аднаго боку назіраюць гледачы, а з другога — персанажы спектакля. Па волі рэжысёра госці пані Францішкі (А. Гайдуліс),ператвараюцца ў відачынцаў: ганарлівая шляхцянка Ганна Мыцельская (Л. Волкава) — ў вынаходлівую ўсходнюю прыгажуню Арую; прынцыповы, сур'ёзны камендант Якуб Фрычынскі (А. Шаўкапляcaў) — у падманутага, недалёкага яе мужа Банута; сціплы шляхціц Станіслаў Мыцельскі (К. Андронаў) — у нахабнага інтрыгана Арлекіна; сарамлівая выхаванка княгіні Тэрэзка (А. Плікус) — у вясёлую спадарожніцу Арлекіна Лауру... "Сам пан Бог раздае нам ролі", — кажа Францішка. Часам тыя, што хочуць іграць лепшыя, выйгрышныя ролі, могуць раптам трапіць ў масоўку. Непрыкметныя дагэтуль персанажы — нечакана зрабіцца аднымі з галоўных дзеючых асоб спектакля...

У А. Жугжды "спектакль у спектаклі" раскрывае перадусім сутнасць тэатра, як мастацтва. Яго тэатр — жывы, вынаходлівы, забаўляльны, схільны да традыцый дэль артэ. Але, на жаль, устаўлены спектакль Францішкі выглядае цікавейшым за ўсю пастаноўку А. Жугжды. Рэжысёр не заўважыў, як "патапіў" цікавы драматургічны матэрыял у нязграбнай бутафорыі, касцюмах (яны ўнеслі ў спектакль перабольшаную тэатральнасць). А важныя трагедыйныя сцэны (здрада мужа, смерць Францішкі, атручэнне Тэрэзкі, развітанне Ганны Мыцельскай з Якубам) засталіся малавыразнымі, сціплымі, не такімі вынаходлівымі, як камедыйныя. На мой погляд, цяжка не заўважыць, што ў п'есах С. Кавалёва светлыя шчырыя пачуцці заўсёды разбіваюцца аб вострыя камяні рэчаіснасці. Цынічнай рэчаіснасці. Шчаслівы сон абавязкова саступае непрыемнаму абуджэнню. І гэтае абуджэнне ці то ўзнёслай Іжоты ў "Трышчане" (насамрэч рыцар Трышчан закахаўся ў яе толькі пад дзеяннем казачнага мілоснага пітва), ці то таленавітай, шчырай у каханні Францішкі (яе палкія лісты чыталіся мужам у абдымках дурніц-палюбоўніц) страшнае тым, што гераіні пачынаюць усведамляць, якім з'яўляецца жыццё насамрэч. На зямлі няма месца ідэальнаму: трэба заўсёды памятаць, што жыццё — тэатр, а ўсе людзі ў ім — акцёры. Гэткія самаўпэўненыя блазны...

Той жа самы шлях — абуджэння ад чароўнага сну і мрояў праходзіць беларуская лекарка Саламея Русецкая. Рэжысёр А. Бакіраў увасабляе на сцэне Брэсцкага тэатра драмы і музыкі непаўторную мелодыю душы гэтай цікавай жанчыны. Напачатку спектакля на сцэну выходзіць камерны ансамбль... З чароўных жывых гукаў нараджаецца танюткая, празрыстая субстанцыя (дзяўчынка ў белым адзенні будзе суправаджаць Саламею на працягу ўсяго сцэнічнага дзеяння). Душа Саламеі робіцца самастойным персанажам спектакля, які А. Бакіраў вызначыў як concerto grosso жаночага лёсу. Т. Ляўчук (Саламея) вядзе сваю ролю з любоўю да гераіні, з тонкім адчуваннем яе характару, жаночых мараў, спадзяванняў. Бо ў любым стагоддзі жанчына верыць, што будзе каханай, адзінай для свайго любага. І заўсёды... памыляецца. Але здрады мужоў, смерць дзяцей, цяжкая праца не ламаюць Саламею, а робяць яе вельмі мужнай, утартай, разважлівай. Неўзабаве захапляешся гэтай жанчынай. Рэжысёр А. Бакіраў, дагэтуль вядомы сваімі шыкоўнымі, відовішчнымі пастаноўкамі камедый Шэкспіра, на гэты раз адмаўляецца ад яскравасці. Сціплая чорна-белая выяўленчая палітра "Саламеі", не перагружаная прадметамі прастора сцэны, моцная акцёрская энергія Т. Ляўчук набліжаюць няпросты лёс Саламеі Русецкай да лёсу сучаснай жанчыны. Тое, што перажывалася нашай суайчынніцай некалькі стагоддзяў таму, здаецца блізкім і цяпер...

**4.**

Спектакль В. Анісенкі "Жанчыны Бергмана" (Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі) з усіх астатніх пастановак выглядаў найбольш эксперыментальным. Бо рэжысёр паставіў п'есу амаль непрыдатную для ўвасаблення на сцэне. У сваім творы малады драматург М. Рудкоўскі даследуе перадусім глыбокія перажыванні чалавека, яго падсвядомасць, асацыяцыі, таямнічыя мроі. А як увасобіць паток свядомасці на сцэне? Як перанесці туды эмацыянальную сувязь паміж фільмамі Бергмана, назвы, змест якіх уплецены ў тканіну п'есы, больш падобнай на апавяданне?

В. Анісенка пераносіць на сцэну толькі сюжэт, аздоблены доўгімі маналогамі: медсястра Ліў (Л. Сідаркевіч) спрабуе выцягнуць з цемры роспачы, адчаю спявачку Інгрыд (Т. Мархель), якая страціла голас. Дзякуючы выразным акцёрскім малюнкам прастору сцэны пранізваюць глыбокія няўлоўныя пачуцці. Спектакль аголеных нерваў, прэпарыраваных душаў, інтымных успамінаў зацягвае, зачароўвае гледача ("Жанчыны Бергмана" ішлі ў непраўдападобнай цішыні залы)...

Знаўцу творчасці Бергмана зразумела, што на хвалі захаплення постмадэрнізмам М. Рудкоўскі паспрабаваў па-свойму "пераказаць" стужку кінамайстра "Асоба". Але ў эксперыментальнай п'есе занатавана між іншым галоўная думка рэжысёра, якая здаецца цяпер вельмі актуальнай. Раўнадушша людзей адзін да аднаго, чэрствасць пануюць у гэтым свеце. Паводзіны медсястры Ліў у адносінах да Інгрыд здаюцца жорсткімі, недаравальнымі. Але яны прадыктаваныя толькі адным — шчырай занепакоенасцю лёсам іншага чалавека. "Ачомайся! Усё добра. Дурненькая, перастань. Мы не будзем засмучаць адна адну. Не плач, мая добрая, разумная, прыгожая, лепшая ў свеце! Радуйся жыццю разам са мной. Ура! Я люблю цябе жыццё! Я вас усіх люблю!.." — кажа ўзрушаная Ліў, гледзячы ў залу.

...На авансцэне сядзіць Інгрыд. Яе твар асветлены надзеяй, шчасцем, спакоем. За яе спіной, як крыллі, ззяюць промні святла...

**5.**

...Сонца ў Бабруйску паказалася толькі ў дзень ад'езду. І ў гэтым было нешта сімвалічнае, бо ў аўтобусе, які вяртаў у Мінск удзельнікаў фестывалю многія бавілі час, чытаючы п'есы маладога беларускага драматурга Андрэя Курэйчыка. Гаварылі, што творы гэтага юнака спадабаліся ў МХАТе, у тэатры Табакова, а ўжо потым — у Купалаўскім. У аўтобусе А. Курэйчык сядзеў насупраць мяне, часцяком падымаючы галаву над крэсламі: сачыў, хто з тутэйшых знакамітасцей чытае ягоныя творы. Назіраючы за маладым драматургам, я чамусьці ўспомніла эпізод з кнігі Л. Кэрала: "З усіх цудаў, якія Аліса бачыла ў сваіх вандроўках па Залюстарэччу, выразней за ўсё яна запомніла гэта. Праз шмат гадоў сцэна гэта так і стаяла перад ёю, як быццам гэтая здарылася толькі ўчора: лагодныя блакітныя вочы і мяккая ўсмешка Рыцара, сонца, якое заблыталася ў ягоных валасах..."

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымках: сцэны са спектакляў "Успамін аб Вавілоне", "Навука кахання"*

*Фота Г. ЖЫНКОВА*



тычнай драматургіі "Стомлены д'ябал" з пасляслоўем, у якім я мушу растлумачыць, што такое герменеўтычная драматургія. Раней мне здавалася, што аўтар нічога не павінен тлумачыць у сваіх драматургічных тэкстах, але, мусіць, я памыляўся. Свядомае выкарыстанне ў маёй творчасці матываў і вобразаў старадаўняй літаратуры ўспрымаецца многімі крытыкамі як хваравіты недахоп самастойнасці, стварэнне звычайных "рэмейкаў".

Напрыклад, п'еса "Балада пра Бландою" напісана паводле беларускага рыцарскага рамана "Бава", у якім Бландоя згадваецца толькі ў самым пачатку як адназначна адмоўны персанаж — распусніца, з-за якой сталіся ўсе беды. У п'есе я спрабую паглядзець на падзеі вачыма гэтай жанчыны, адшукаць яе праўду, я інтэрпрэтую яе гісторыю, як гісторыю жанчыны ў эпоху мужчын. Нешта падобнае адбываецца ў "Саламеі Русецкай". У "Трышчане ды Іжоце" ўвага акцэнтавана не толькі на трагічных, але і на камічных момантах. У другой дзеі сюжэт зусім іншы, чым у рамане. Не дзіўна, што ў Любліне, польскія гледачы былі ў шоку ад нечаканага фіналу "Трышчана", таму што яны вывучаюць у школе класічную версію рамана. Папросту, я выкарыстоўваю ў сваіх творах літаратурныя матывы і вобразы не таму, што не магу напісаць самастойны твор, а таму, што такая герменеўтычная драматургія мне здаецца больш патрэбнай для сучаснай беларускай культуры. Наогул цікава, што сам я не ўспрымаю свае творы як гістарычныя.

**— І ўсё ж ці дачакаюцца ад драматурга С. Кавалёва п'есы пра сучаснасць?**

— У мяне часта пытаюцца, калі я напішу твор пра сучаснасць. Думаю, што праз годдва. Я скончыў свой герменеўтычны праект і, шчыра кажучы, ужо стаміўся ад гульні з тэкстамі, гістарычных касцюмаў. Але я сумняваюся, ці магчымая сёння драматургія, якая б, па-першае, праўдзіва, а па-другое, цікава адлюстроўвала наш час. Сучаснасць, якую мы зазвычай бачым на сцэне, — бяздарная, пустая. Можа, таму, што бяздарная сама рэчаіснасць? Старадаўняя ж літаратура дазваляла разважаць паэтычна, метафарычна пра нашае жыццё. Пакуль што я напісаў толькі п'есу "Сёстры Псіхеі", распачаўшы ёю іншы свой праект: "магічны тэатр".

**—Сяргей, калі меркаваць па апошніх спектаклях, вас прываблiваюць найперш жаночыя вобразы. Чаму? І чаму вашыя гераіні такія нешчаслівыя ў каханні, заўсёды падманутыя мужчынамі?**

— Па-першае, таму што я мужчына. Гэта звязана з падсвядомасцю. Яшчэ Юнг заўважыў, што душа мужчыны мае жаночую сутнасць. Па-другое, і Саламея Русецкая, і Францішка Уршуля Радзівіл цікавілі мяне як асобы. Ніхто з мужчын тых часоў не напісаў такіх мемуараў, як Саламея, не стварыў уласнага тэатра, не напісаў такой колькасці п'ес, як Францішка. Нашаму тэатру бракуе такіх жаночых вобразаў, хаця сама сутнасць тэатра — жаночая. Адна мая знаёмая паэтка сказала: "Дзе з'яўляецца жанчына — там пачынаецца тэатр". А што тычыцца пытання, чаму мае гераіні такія няшчасныя ў каханні, — я не ведаю адказу. Можа, таму я і напісаў гэтыя п'есы.

**— На сёлетнім Фестывалі нацыянальнай драматургіі нашыя тэатралы літаральна зачытваліся п'есамі маладога беларускага драматурга А. Курэйчыка. Цікава, як Вы ставіцеся да ягоных п'ес?**

— Адно з добрых уражанняў ад бабруйскага фестывалю — знаёмства з Андрэем і ягонымі п'есамі. Нарэшце ў нас з'явіліся сапраўды маладыя драматургі, найноўшая генерацыя. Я прачытаў пяць п'ес Андрэя, усе яны напісаны прафесійна, пазначаны пячаткаю таленту. Але на мяне як на чытача зрабіла ўражанне адна — гістарычная драма "П'емонскі звер" (дарэчы, яна пра Сярэднявечча). Лічу, што гэта ўзор гістарычнай драмы, не ілюстрацыі да гісторыі, а менавіта жывой драмы. З задавальненнем прыйду ў тэатр паглядзець спектакль паводле гэтай п'есы.

**Гутарыла В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымку: драматург С. Кавалёў у момант уганаравання на II Фестывалі нацыянальнай драматургіі імя В. Дуніна-Марцінкевіча.*

# “Стаіць на пагорках Валожын...”

**Граць на гармоніку ці іншым музычным інструменце могуць многія. А вось імправізаваць ці пісаць уласную музыку — дадзена прыродай мала каму. Так і ў паэзіі.**

**Тым не менш, спрабуюць выявіць сябе ў слове многія, і сярод іх нямала сапраўдных паэтаў, хто разлічвае на поспех у творчасці. Добрыя, шматабяцальныя паэтычныя парасткі ёсць паўсюль на Беларусі. Ёсць яны і на Валожыншчыне, зямля якой заўжды была багатай на таленты.**

**Прапаную ўвазе чытачоў “ЛіМа” нізку вершаў сябраў народнага літаб'яднання “Рунь”, якое існуе пры Валожынскім РЦК ужо сем гадоў. Гэта людзі і сталага, і маладога ўзросту, якіх яднае любоў да прыгожага пісьменства, жаданне быць пачутым іншымі.**

**Міхась КУРЫЛА**

Сяргей МАЛЯЎСКІ

## У вёсцы

*Старэе, вёсачка, старэе...*

*Яшчэ спяваюць пеўні на зары,*
*Але патроху зарастаюць сцежкі.*
*Паркан да долу хіліцца стары,*
*А пах духмяна-кіслы хлебнай дзежкі*
*Амаль нідзе не ўчуеш на двары.*
*Яшчэ шапоча сад зялёналісты,*
*Ды не відаць між яблынь дзетвары,*
*А куст парэчак чырвона-агністы*
*Неабабранай ягадай гарыць.*
*Уздоўж вулкі хаты быццам бы прыселі*
*Ад працы цяжкай перавесці дух.*
*І пахаванняў болей, чым вяселляў.*
*Двароў усё меней, дзе жывуць удвух.*
*Глухая цішыня вісіць наўкола,*
*Не чутна нават звыклага “ку-ку”,*
*І толькі зрэдку прагрукочуць колы*
*Па заімшэлым вулічным бруку.*
*І сонца як-бы меней грэе...*

*Старэе, вёсачка, старэе...*

## Вызнанне

*З'яўлення на свет таямнічы абрад*
*Ў жыццё адчыняе нам дзверы,*
*І ты ўжо жывеш прыкаваны, як раб,*
*Да часу свайго галеры.*

*Жыццё — гэта зменаў бясконцае рад,*
*Мяняе нам сімвалы веры.*
*Тут кожны з жывых прыкаваны, як раб,*
*Да часу свайго галеры.*

*А шчасцю свайму сабе кожны прараб,*
*Хоць часта не ведаем меры,*
*Бо кожны з жывых прыкаваны, як раб,*
*Да часу свайго галеры.*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Няма на зямлі даражэйшага, брат,*
*Чым гонар людскога даверу,*
*Хоць ты і жывеш прыкаваны, як раб,*
*Да часу свайго галеры.*

Наталля ЖЫЛЕВІЧ

## Валожын

*Між гнуткіх ялін*
*І асілкаў дубоў,*
*Між купаў балот*
*І квяцістых лугоў,*
*Дзе сосны увысь,*
*Нібы ветразі, мкнуцца.*
*Дзе бору шумлівага*
*Песні пяюцца,*
*Дзе кветачкі ў полі,*
*Нібы чараўніцы,*
*І ветрык нясе*
*Свежы пах медуніцы,*
*Дзе волаты-зубры*
*Па пушчы блукаюць,*
*Дзе людзі ў турботах*
*Век шчасця шукаюць,*
*Дзе думкам прывольна,*
*Душы так прыгожа —*
*Стаіць на пагорках*
*Мой любы Валожын...*

## Вальс

*У палоне музыкі чароўнай*
*Я плыву, нібыта ў забыцці.*
*Вось бы так — сцяжынкай*
*гладкай, роўнай —*
*Мне з табою крочыць па жыцці,*

*Аб плячо нясмела апірацца*
*І дыханне — тварам адчуваць;*
*Ды ля сэрца плакаць і смяяцца, —*
*Не зязюляй шэрай кукаваць...*

*Летуценні-думкі, мары — роем*
*Ўюцца пад чароўных гукаў звон.*
*Раптам музыка заціхла у пакоі, —*
*Стук у дзверы абарваў мой сон...*

## Жураўлі

*Яны лятуць —*
*над нівамі, над хатамі,*
*І сумны крык даносіцца з аблок.*
*Сябе на міг адчуеш вінаватаю,*
*Зірнуўшы ў неба*
*быццам незнарок...*

*Грахі людскія*
*ў вырай забіраючы,*
*Усе грахі, што людзі нажылі, —*
*Яны лятуць,*
*трывожна аклікаючы*
*І тых, каму няўтульна на зямлі...*

Зінаіда ГАСЦІЛОВІЧ

## Матылёк

*Месяц моўчкі плыве над зямлёю*
*І шапоча ля ног асака.*
*Серабрыцца на хвалях лускою*
*І імкне ўдалячынь дзесь рака.*

*Засынаюць палеткі і нівы,*
*Атуляе ноч цішай зямлю.*
*Я пад гукі крынічкі гуллівай*
*Твае вусны сваімі лаўлю.*

*Матыльком на далоні прысела —*
*Спапяліць хай кахання агонь,*
*Толькі я ўсё адно — прыляцела,*
*Каб сагрэцца ля сэрца твайго...*

Марыя ШАКУН

## Шчасце

*Што такое шчасце?*
*Гэта зразумееш,*
*Калі тое страціш,*
*Што цаніць не ўмееш.*

*Бо хіба ж не шчасце,*
*Падумайце самі, —*
*Хадзіць па зямельцы*
*Сваімі нагамі;*

*Бачыць, як над лесам*
*Расцвіла вясёлка,*
*Слухаць, як спявае*
*Па вясне салоўка;*

*Любавацца небам,*
*Сонечным, блакітным,*
*Харчавацца хлебам,*
*Працаю здабытым.*

•

*Ты ідзеш палявою сцяжынкай,*
*Ветрык ласкава твар абвявае,*
*У небе воблака белай хусцінкай*
*Нетаропка мкне ўдаль, адплывае.*

*Травы сцелюцца мякка пад ногі,*
*Сонца плечы лагодна так песціць,*
*Васілёк у жытах ля дарогі,*
*Быццам неба асколачак, свеціць.*

*Каласкі абдымаюць за рукі,*
*З галавой у іх мора ныраеш,*
*Ловіш лета чароўныя гукі —*
*І душой ты адпачываеш.*

*І так добра табе ў гэтым краі,*
*Што маленькай радзімай завецца:*
*Свет чаруе, лагодзіць, кранае*
*І любоўю пранізвае сэрца.*

Міхась КУРЫЛА

## Айчына

*Мая айчына —*
*Стог саломы*
*І куст шыпшыны ля шашы...*
*Дарога сталая дадому*
*І — вершы, вершы для душы.*
*Азерца*
*З вывадкам качыным,*
*Вясёлкі мосцік над ракой;*
*І бору шум, яго спакой —*
*Таксама ўсё гэта Айчына...*
*Мая Айчына — шал вятроў,*
*Шляхоў асенніх бездарожжа,*
*Мая Надзея і Любоў.*
*А большага — і быць ці можа?*

•

*Вось і ўсё... Вось і ўсё...*
*Ссох-паняў агурочнік.*
*Зачасцілі дажджы*
*Ліць на мой агародчык.*
*Зачасцілі дажджы —*
*Халадзеюць світанні,*
*Стала меней сустрэч,*
*Усё больш расставанняў.*
*З кім вячэру дзяліў,*
*Сэрца тых не забудзе.*
*Толькі іх больш няма,*
*І няма — і не будзе.*

## Астры

*Зноў астры позна цвітуць*
*І пуста ў сэрцы, як наўкола.*
*Лісты пажоўклыя лятуць —*
*Бы матылі, над частаколам.*

*Вазы аблок вязуць вятры*
*У невядомым ім напрамку.*
*Рабін халодныя кастры*
*Палаюць чырванню наранку...*

*Асеннім астрам маладым,*
*Бы паннам, пішуцца санеты...*
*Ёсць нешта сумнае заўжды*
*Ва ўсмешцы кветак позніх гэтых.*

•

*Мой ранак не засмучаны*
*Таропкасцю сустрэч.*
*Мой ранак не заручаны*
*Раскошай белых плеч.*
*Пявучы і мядовы,*
*Ён поўны пачуцця*
*Да любай, чарнабровай.*
*Паненкі ганаровай, —*
*Чужой пакуль хаця...*

•

*У свеце нашых блізкіх зносін*
*Гуляе лета па двары.*
*І мы сустрэч не пераносім*
*Да больш вясёлае пары.*
*Мы рады кожнаму спатканню,*
*Якіх не надта шмат было.*
*Мы рады нашаму каханню,*
*Што позняй кветкай прарасло.*
*Кране ж лістоту пазалота,*
*Самота сэрца ахіне —*
*Я атулю Вас зноў пяшчотай,*
*Самота хутка і міне.*
*У свеце нашых блізкіх зносін*
*Пакуль — цудоўная пара...*
*Пачуццяў не азмрочыць восень,*
*А пажадае нам дабра.*

Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ

## Я вас люблю

*Пад восеньскага ветру акампанемент,*
*Пад лісця залатога дзіўны вальс*
*Прыйшла я ў гэты непаўторны свет,*
*Напэўна, каб спаткаць аднойчы Вас...*

*Калі вяночак першы свой віла*
*Паміж раскошы лугавой травы*
*І бесклапотна юнаю была,*
*Я верыла, што ёсць на свеце — Вы...*

*І хоць не ўсе лагоднымі былі,*
*Я ўдзячна сёння ўсім сваім гадам*
*За тое, што да Вас мяне вялі*
*І што цяпер магу прызнацца Вам:*

*Вясна смяецца, ці віхурыца зіма,*
*Ці восень запрашае зноў на вальс:*
*Для нашых сэрцаўростані няма —*
*Я Вас люблю!*
*Я так кахаю Вас...*

•

*Сінеча хваль на полі лёнавым,*
*Вясёлкавасць крыштальных рос,*
*Хваінак ветразі зялёныя,*
*Світанне чыстае бяроз...*

*Дзе ёсць яшчэ багацце гэткае?*
*І покуль мне зара гарыць,*
*Зямелькай роднаю распетая,*
*Душа не можа не тварыць.*

•

*Палёт лістоў*
*Змяняе лёт сняжынак,*
*Ільдзінкі ціха*
*Стынуць на вадзе,*
*А я ўсё шукаю*
*Той сцяжынкі —*
*Адзінай той,*
*Што да цябе вядзе...*
*Я ўсё жыццё*
*Шукаю той сцяжынкі —*
*Той, што да сэрца*
*Любага вядзе...*

•

*Ах, як лёгка сняжыначкі кружацца,*
*Падуладныя дзіўнае музыцы,*
*Што нячутна для слыху староннягa.*
*Толькі разам з табою,*
*сягоння я*
*Чую вальс, што з нябёсаў ліецца.*
*Не, не слыхам — кахаючым сэрцам.*
*І закружымся ў лад са сняжынкамі,*
*Пройдзем лёгка бялюткай сцяжынкаю*
*Пад мелодыю дзіўнага вальса.*
*Не знікай, мая казка,*
*Застанься...*



Зазімак — Фота Ю. ЗАХАРАВА



**ЧАСАПІС**

## *Пра старажытную Беларусь і Лацінскую Амерыку*

**У сваёй творчасці пісьменнік са Слоніма Аляксей Якімовіч стараецца распрацаваць новыя, займальныя тэмы для юных чытачоў. Гэта адчуваецца, калі чытаеш яго новую кнігу "Залатая дзіда", якая пабачыла свет у выдавецтве "Юнацтва".**

**У кнігу ўвайшлі прыгодніцка-фантастычная аповесць "Залатая дзіда", прыгодніцка-гістарычная аповесць "Выпрабаванне" і чатыры дэтэктыўныя апавяданні. Як кажуць, на любы густ.**

**Скажу крыху слоў аб літаратурным майстэрстве Аляксея Якімовіча. Праца вясковым настаўнікам, веданне псіхалогіі школьніка, а таксама прыроднае чуццё дапамагаюць яму выбраць правільны тон і ў аповесцях, і ў апавяданнях — шчыры, адкрыты, даверлівы і лагодны. Вядома, ён стараецца ўзяць чытача ў палон, прымусіць яго суперажываць, сачыць, думаць. Гэтаму дапамагае і тое, што ў некаторых творах падзеі даносяць да нас героі трэцяй асобы (Базыль у "Выпрабаванні", Антось Маркевіч у "Залатой дзідзе", Сямён у "Пажары").**

**У сусветнай літаратуры, успомнім хаця б Фенімора Купера, напісана шмат твораў пра індзейцаў. Справа гэтая, асабліва для аўтара краіны, далёкай ад Амерыкі, цяжкая. Трэба не толькі шмат ведаць, але і шчыра любіць сваіх герояў, зжыцца з імі.**

**Наколькі мне вядома, слонімец Аляксей Якімовіч, задумаўшы напісаць аповесць пра індзейцаў, звярнуўся з просьбай да індзеяніста з Гомеля Алеся Сімакова, каб той дапамог з адпаведным матэрыялам. Алесь Сімакоў на гэтую просьбу ахвотна адгукнуўся. Такім чынам і з'явілася аповесць пра індзейцаў мапучэ. У аповесці "Залая дзіда" ёсць і міфічнае з жыцця мапучэ (вампір Траўка) і фантастычнае (вышэйшы дух Нгенучэн дае правадыру племені мапучэ Лінкану залатую дзіду), і рэальнае (жыццё і побыт індзейцаў мапучэ).**

**Звяртае на сябе ўвагу і рэальнасць кампазіцыі аповесці. Яна пачынаецца не з прыгод беларускіх хлапчукоў у джунглях далёкай Лацінскай Амерыкі, а са знаёмства з індзейцамі мапучэ Лінканам і Анту. Але гэта не замаруджвае ход прыгодніцкай аповесці, не аслабляе ўвагі да яе, бо хутка пачынаецца дзеянне: "Лінкан глянуў уверх, прыкрыўшы далонню вочы. Высока-высока ён убачыў маленькую кропку, падобную на чырвоны вугалёк". Гэтая "маленькая кропка" і дае штуршок прыгодам. Кампазіцыйна "Залатая дзіда" складаецца з трох частак — "вампір і наркаманія", "Праз джунглі" і "Правадыр Лінкан". У іх аўтар цікава паказвае ў той ці іншай меры жыццё індзейцаў у горадзе, у джунглях і апісвае прыроду Лацінскай Амерыкі.**

**А вось кампазіцыйная пабудова другой прыгодніцка-гістарычнай аповесці "выпрабаванне" некалькі іншая. Яна падзелена не на часткі, а на асобныя раздзелы. Назвы іх з'яўляюцца не толькі кароткімі анатацыямі гэтых раздзелаў, але і засяроджваюць увагу чытачоў.**

**Моцным, псіхалагічна абгрунтаваным атрымаўся ў гэтай аповесці вобраз Бардуна, якога суседзі за ягонае вядзьмарства, прагналі з вёскі і прымусілі жыць у лесе. Тут яму кепска і адзінока. Болем гучаць словы на пытанне хлопчыка Базыля, дзе ён цяпер начуе: "Недзе начую. Ты гэта добра падмеціў. А вось сапраўдны закутак быў у вёсцы. У вёску нават вераб'і ляцяць, хоць, бывае, малыя са страхі выпорваюць іх вечарам. Здавалася б, чаго табе, верабейку, трэба ў вёсцы? У лесе жыві, а ў вёску толькі наведвайся. У лесе ж спакайней. Не, у вёску ляцяць. Туды іх цягне. Добра ім там".**

**Бардун хоча аддаць дзяцей у рукі татараў і тым самым адпомсціць аднавяскоўцам, расквітацца з імі за колішнюю ганьбу і цяперашняе халоднае жыццё, але ў канцы аповесці ратуе іх.**

**У "Выпрабаванні" яскрава паказана жыццё нашых продкаў у 16 стагоддзі. Тады на Беларусь часта рабілі набегі крымскія татары і бралі ў палон дзяцей і падлеткаў, каб потым прадаць іх у заморскія краіны. Гэтыя страшныя набегі — чарговае выпрабаванне для беларусаў, праз якое яны прайшлі з годнасцю.**

**Хочацца сказаць некалькі слоў і пра дэтэктыўныя апавяданні, а іх у кніжцы толькі чатыры. Героі апавяданняў у асноўным падлеткі, яны адрозніваюцца не толькі вастрынёй, але і сваёй маральнасцю. Яна накіравана супраць жорсткасці, бяздушнасці. Дзеці прымушаюць задумацца над многімі праявамі нашага жыцця.**

**Кніга Аляксея Якімовіча "Залатая дзіда" цудоўна афармлена мастаком С. Волкавым. Лыжкай дзёгцю ў бочцы мёду з'яўляецца прыкрая памылка, што пракралася на вокладку гэтай кніжкі: Аляксея Якімовіча чамусьці перайменавалі ў Алеся. У дзяржаўнай выдавецкай справе такой памылкі нават раней і не прыпомню.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ДА 110-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ БРАНІСЛАВА ТАРАШКЕВІЧА

# "А мне здаецца, што яго пачынаюць забываць..."

26 студзеня 1982 года ў Доме літаратара праходзіла вечарына, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча. З уступным словам "Павераны ў справах народа" выступіў Язэп Семяжон. Пра змагарнае жыццё і грамадскую чыннасць Браніслава Адамавіча гаварылі Арсень Ліс, Мікалай Арэхва, Адам Мальдзіс, Фёдар Янкоўскі. Гучала музыка Шапэна, улюбёнага кампазітара Б. Тарашкевіча.

Я тады працаваў у літаратурна-драматычнай рэдакцыі Дзяржтэлерадыё і напісаў у Радашковічы да Веры Андрэеўны Ніжанкоўскай. Папрасіў жонку Тарашкевіча прыняць удзел у святкаванні. Яна прыехаць не змагла, але напісала ўспаміны "Некалькі слоў пра Тараса".

*"Пра навуковую, літаратурную і палітычную дзейнасць Браніслава Адамавіча Тарашкевіча шмат пісалі і Аляксандр Бергман, і Арсень Ліс, і Адам Мальдзіс...*

*Дык мне застаецца хіба толькі напісаць аб яго сям'і.*

*Тарас, як яго звалі амаль усе прыяцелі, ад дзяцінства жыў у засценку Чарнулішкі. Бацькі набылі гэтую зямлю, якой вялікая частка была балотная сенажаць, і не заўсёды праз яе можна было прайсці ў Лаварышкі.*

*У сям'і было трое дзяцей. Старэйшы Юзюк, Бронюсь і Тэкля. Дзеці былі прывучаны памагаць бацькам. Малы Тарас пасвіў скаціну і нават раз амаль што не згарэў, бо ў ватоўцы пастушкі заснулі каля вогнішча і ватоўка пачала гарэць. Калі дзеці падраслі, іх паслалі ў школу ў Лаварышкі.*

*Тарас вучыўся з вялікай ахвотай. Аб яго здольнасцях даведалася настаўніца Алена Стамброўская і, узяўшы да сябе, пачала яго рыхтаваць да экзаменаў у гімназію.*

*Аддаць хлопца ў гімназію — гэта былі вялікія кошты для селяніна. Але бацька рашыўся, нягледзячы на тое, што цесць Чарняўскі, які з імі жыў, быў супраць гімназіі. Ён марыў, каб унук пайшоў у ксяндзы.*

*І вось Тарас, здаўшы добра экзамены ў 3-ці клас, з'явіўся да сваіх таварышаў.*

*Ён быў невысокага росту, таму адзенне яму пашылі "на вырост"; бацінкі былі выраблены з нейкай грубай скуры. Адразу гэта выклікала кпінкі яго аднакласнікаў. Але ўжо праз пару дзён, пачуўшы яго адказы, і за паводзіны сталі яго паважаць і любіць. З многімі з гэтых хлапцоў ён сябраваў доўгія гады.*

*Тарас быў добры, але "вспыльчивый", пры гэтым лёгка чырванеў, але хутка адходзіў і сам смяяўся.*





*Першы год бацькі мусілі плаціць і за навуку, і за кватэру (куток), і вазіць у Вільню харчы. Але з 4-га класа Тараса зволілі ад платы за навуку (як выдатніка), а з 5-га класа ён сам пачаў браць сабе вучняў: плаціў і за свой куток, набываў школьныя прылады і нешта з адзення.*

*Тарас пачаў наведвацца ў рэдакцыю "Наша Ніва". Там ён зразумеў, што і ён беларус. У гімназіі ўжо пісаўся як беларус. Але ён зразумеў, што ўсякая мова мусіць быць упарадкавана — мець сваю граматыку. Таму ён пастанавіў вучыцца далей у Пецярбурзе і там з дапамогай акадэмікаў Шахматава і Карскага ўкласці беларускую граматыку.*

*А дома засталіся брат Юзюк і сястра Тэкля. Брат вучыцца не хацеў, а гаспадарыў з бацькамі. Падчас вайны 1914 года трапіў на фронт, дзе перад атакамі мусіў вылазіць з акопаў і рэзаць калючы дрот, каб салдатам было як ісці ў наступ. Вярнуўся ён з вайны яшчэ малады, але сівы. Ён жаніўся і меў чатырох дачок, трох сыноў, якія і цяпер жывуць. Сам ён памёр у 1957 годзе.*

*А сястру Тэклю больш за пачатковую школу і не вучылі, але гэта была вясёлая, разумная, прыгожая дзяўчына. І калі Тарас часамі прыводзіў да дому сваіх таварышаў, дык ён ганарыўся ёю: такая яна была дасціпная і абаяльная.*

*Бацька Тараса быў працавіты, разумны, жартаўлівы. Нават з жартам і памёр. Працаваў ён нейдзе на полі і вярнуўся палуднаваць, а пакуль сесці за стол, дык залез на печ і сказаў: "Вось я і навастрыўся: узлез на печ, ды кажухом накрыўся", — і ў гэты момант памёр. У той час Тарас быў у турме. А маці была ціхая, добрая, ласкавая. Яе Тарас вельмі любіў і мне спадабаўся адзін выпадак, аб якім я ўсім пісала.*

*У той час Тарас быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, якая месцілася ў*

# Згадкі

***Яшчэ зусім нядаўна сярод нас жыла апошняя са знакамітага роду Сніткаў — спадарыня Вера. Яна ж пляменніца Аляксандра Уласава, рэдактара "Нашай Нівы". Яна ж і жонка Браніслава Тарашкевіча — аўтара першай беларускай граматыкі для школ. З ёй заўсёды было цікава сустрэцца, пагутарыць Шкада толькі, што мы мала з ёй сустракаліся. Мала распыталі. Мала запісалі, занатавалі. Кажучы пра некага, гэта кажу і пра сябе. Перагортваючы запісы сваіх гутарак са спадарыняй Верай, бачу: колькі не распытана! Ні слова, прыкладам, пра сустрэчы, размовы, супольную працу Аляксандра Уласава і Браніслава Тарашкевіча. А гэта ж надзвычай цікавая старонка з жыцця двух нашых славутых беларускіх дзеячаў. Але пра яе ні слова, хоць у кожнага з нас, хто сустракаўся са спадарыняй Верай, была такая мажлівасць. Мажлівасць была, ды не знайшлося імпульсу на такую гаворку. І найцікавейшая старонка стасункаў двух славутых дзеячаў назаўсёды застанецца для нас белай плямаю. Шкада, вядома. Затое калі я ўбачыў у сваіх нататках жывыя занатоўкі з успамінаў спадарыні Веры пра самога Браніслава Тарашкевіча, я дужа ўсцешыўся.***

## ТАРАС

Хрышчонае імч аўтара першай беларускай граматыкі, як вядома, Браніслаў — Бронік, Бронісь. Але шмат хто з калегаў, ягоных аднадумцаў называлі яго Тарасам. Цікава — ці няпраўда? Прыкладам, Янка Купала ў сваім лісце да Тарашкевіча пісаў: "Дзядзька Тарас! Што чуваць у Вас з беларускай граматыкай? Ці што-небудзь зрабілі ў гэтым напрамку?"

Гэтак жа звярталася да Браніслава Тарашкевіча і наша слынная паэтка Алаіза Пашкевіч — Цётка: "Тарас, не сядзі на Парнасе! Чаму маўчыш, як вады ў губы ўзяўшы?"

Тарасам Браніслава Тарашкевіча называла скрозь і Вера Андрэеўна. Я пацікавіўся, чаму, адкуль гэтае імя?

"А ведаеце, — адказала яна на маё пытанне. — Як гэта ні дзіўна, я не пацікавілася, калі жылі разам... Тарас ды Тарас. Я ніколі не задумвалася, ні разу не папыталася, чаму яго ўсе Тарасам завуць, называюць. Усе казалі Тарас, і я следам за ўсімі звярталася да яго — Тарас. А от пачала думаць, пачалі людзі пытацца, а я і не ведаю. Але я так думаю: гэта, мусіць, са студэнцкай пары, са студэнцкіх гадоў. Мой Бронік быў вельмі выбітны, прагнуў парнаскіх вяршыняў. А тут і прозвішча такое — Тарашкевіч. Думаецца, яно калісь гучала як Тараскевіч. І от з яго і вылушчана другое Бронікава імя — Тарас. От і пайшло... Тарас ды Тарас. Яму гэтае імя было даспадобы. Ён любіў "Тараса на Парнасе". Лічыў сябе Парнаснікам. Здаралася нават, што ён і сам сябе называў Тарасам. Гэтым імем, прыкладам, ён падпісаў сваю досыць сіматычную развагу-публіцыстыку "За нашу і вашу свабоду". Пад ёй рукою Браніслава Тарашкевіча гэта і напісана — Тарас на Парнасе. Найчасцей Тарасам яго называлі, калі гаворка ішла пра розныя творчыя клопаты".

## ЦІ СПЯВАЎ ТАРАС?

Такое пытанне значыцца ў маім нататніку да Веры Андрэеўны.

"Спяваў!.. Адну ягоную песеньку я і зараз памятаю:

***Ой, дзюк-дзюкі-дзюк.***
***Лепей дзеўка, як дзяцюк:***
***Дзеўка бліноў напячэ,***
***Дзяцюк дроў прынясе.***
***От такі быў у яго напеў".***

## НА ЗЛОМ ГАЛАВЫ

Вось што яшчэ распавяла мне Вера Андрэеўна. "...У 1922 годзе я з мамай вярнулася з Украіны, з Глухава, куды мы былі выгнаны Першай сусветнай вайной. Наш пад Радашковічамі маёнтак Кальсбэрг паводле Рыжскай дамовы 1921 года апынуўся пад Саветамі, а Мігаўка пад Польшчаю. У свой Кальсбэрг мы не змаглі трапіць, таму працяглы час жылі ў Мігаўцы, пакуль мама не асталявалася ў Радашковічах. От адной такой парой Бронік з якімісь сваімі клопатамі завітаў у Мігаўку. А тут і я. Мне быў дваццаць адзін год. Самая нявеста. Броніку трохі болей. Мне ён спадабаўся больш за ўсіх Разумны, рухавы, спрытны, высокі, жэчны, рашуча напорысты. Ну і я маладая была нішто. Тады мы з ім пазнаёміліся. Знаёмства перайшло ў шлюб. Гэтак я з Веры Сніткі сталася Верай Тарашкевіч. Нас парадніла Мігаўка. Дзядзьку Сашу гэта дужа падабалася мець за сваяка такога беларуса. Ён усё жартаваў, што ягоная Мігаўка цягам часу станецца другою Вільняю. З дзядзькам у Броніка было шмат агульных клопатаў. Якраз гэтаю парою абодва апекаваліся беларускімі гімназіямі: Тарас у Вільні, дзядзька Саша ў Радашковічах. То было ім пра што пагаварыць, пагаманіць. У Мігаўцы на сядзібе дзядзькі Уласава была невялікая спартовая пляцоўка з markрознымі там турнікамі, бумамі, брусамі для раўнавагі. Дзядзька Уласаў культаваў фізкультуру і спорт, цікавіўся ўсім гэтым і сам патроху займаўся гімнастыкай, лічыў, то спорт — гэта здароўе. Ён і Броніка далучыў. От на адным такім брусе з кольцамі я і прыспела Броніка. Практыкаванне было нескладанае. Неяк трэба прыладзіцца і прашмыгнуць праз тыя кольцы. Але нікому гэта не давалася, кольцы тыя круціліся, слізгалі. А Бронік змог. Гэта вельмі мяне ўцешыла. Пасля мы з Бронікам часта бывалі ў Мігаўцы. Бронік і дзядзька Уласаў жа былі сенатарамі, пасламі Беларускага пасольскага клуба. Яны часта бачыліся і ў Вільні. Затым Броніка пачалі цягаць па судах. Дзядзька Уласаў перажываў, хваляваўся, як мог бараніў Броніка, угаворваў яго менш гарачыцца, быць больш дыпламатычным. Але дзе там! Броніка цяжка было спыніць. Ён за праўду ішоў на злом галавы".

## ГРАМАТЫКА

Браніслаў Тарашкевіч шмат чаго зрабіў для свае Бацькаўшчыны, для свайго народа. Але самая яго галоўная напрацоўка — гэта, безумоўна, першая беларуская граматыка. Згаданая граматыка — найвялікшы дарунак свайму народу. А з боку аўтара яго парыванне — подзвіг. Усяго дваццаць два гады было юнаку з-пад Вільні, калі ён узяўся з моўнай аблогі, з моўнай стыхіі зладзіць хоць якую стройную граматычную сістэму. Чатыры гады ўпартай, напружанай працы. Чатыры гады пошукаў, аналізаў, разваг і сумненняў. І от у 1918 годзе

*будынках каля Троіцкага манастыра. У той час маці Тараса вярталася з Кальварыі, куды працэсіяй з Лаварышак хадзілі пешша. Яна гэтак змаглася, што разулася, але ісці далей не магла і села нейдзе каля Вострай брамы. Аб гэтым, відаць, нехта з вучняў сказаў Тарасу, які кінуўся на вуліцу, схапіў на рукі сваю маленькую, босую маці і прынёс у гімназію.*

*Аб лёсе радзіннага дома, дзе гадаваўся Тарас і дзе дажывалі век яго бацькі і жыла Тэкля з сям'ёй, магла б расказаць пляменніца Марыя Осіпаўна Багдановіч. Яе адрас: Лаварышкі. Вільнюскі раён, в. Шакулішкі. Яна ўжо пенсіянерка, але мае тэлефон (598218) і добра памятуе свайго дзядзьку.*

*Пазнаёмілася я з Тарасам у свайго дзядзькі Аляксандра Мікалаевіча Уласава, былога рэдактара "Нашай Нівы". Ён тады жыў у сваім фальварку Мігаўцы у 3-х кіламетрах ад Радашкавіч. У той час дзядзька займаўся арганізацыяй "Таварыства Беларускай Школы" ў Радашкавічах (узнікла раней, чым Віленская ТБШ) і Радашкавіцкай Беларускай Гімназіі. Дзядзька мой быў вельмі папулярны, яго любілі і шмат хто з беларусоў прыязджалі да яго спаткацца, парадзіцца. Прыехаў да яго і Тарас. Мы і пазнаёміліся. На мяне зрабіла вялікае ўражанне яго абаяльнасць, гумар, досціп. Мы з маткай вясной 1922 года вярнуліся, як рэпатрыянткі ў Радашкавічы. Але пакуль мы не пабудавалі сабе хаты, то на зіму паехалі ў Вільню. Там мы з Тарасам ужо часта спатыкаліся, ён вучыў мяне лацінскай мове і вельмі хацеў, каб я далей вучылася. У восень 1923 года мы пажаніліся і я паступіла ў Віленскі Універсітэт "вольнаслухачкай" на біялогію. А Тарас ужо быў па "спісу меншасцей" выбраны паслом у Польскі Сейм.*

*І пачаліся яго вандроўкі: Вільня, Варшава, часам Радашкавічы. Частыя мітынгі на перыферыях. Каласальная праца з Грамадой. А ў студні 1927 года арышт і турма.*

*Я тым часам працавала ў МОПРы, а таксама была сувязной паміж арыштаванымі і КПЗБ.*

*Я маю колькі здымкаў, але выслаць іх баюся, бо і так некалькі іх згінула, а што раней было ў мяне — згарэла вайной. Можа, і ва Уладзіміра Садаля нешта ёсць дабавіць. Прафесар Янкоўскі шмат што знае. І пра нашага сына-партызана.*

*Можа, Вам будзе цікава, што ў 1925 годзе ў нас радзіўся сын Радаслаў. Маленькім бываў разам са мной у турмах на спатканні з бацькам.*

*Улетку 1930 года ён правёў пару месяцаў з бацькам, калі той быў у Радашкавічах.*

*А ў СССР, калі ішоў абмен палітычнымі вязнямі, з Тарасам я не паехала, бо не магла адважыцца пакінуць старую матку. Яна мне нічога не казала, але я ведала, што заставіць яе аднэй, без унука і мяне, гэта было б для яе смяротна.*

*У верасні 1943 года мой хлопец пайшоў у партызаны, а ў чэрвені 1944 года падчас блакады каля Зембіна згінуў.*

*Вера Андрэеўна Ніжанкоўская*
*г.п.Радашкавічы".*

З той вечарыны ў Доме літаратара прайшоў па тэлебачанні толькі маленькі сюжэцік. Мой сцэнарый паўнавартаснай перадачы не быў прыняты.

Успаміны В. Ніжанкоўскай, яе багаты іканаграфічны матэрыял меркавалася выкарыстаць у перадачы, прымеркаванай да 95-годдзя Б. Тарашкевіча. На яшчэ адзін допіс у Радашкавічы я атрымаў такі ліст: "Дзякую Вам, што Вы ўзяліся ўспомніць пра Тараса. Ён гэта заслужыў. А мне здаецца, што яго пачынаюць забываць, як і многіх іншых змагароў за народ і Беларусь, і гэтак трагічна загінуўшых.

Што да родзічаў Тараса, то хіба адна Марыя Осіпаўна Багдановіч (дачка Юзюка) яго памятае. Гэта вельмі мілая і разумная жанчына, але, на жаль, хваравітая.

На жаль, памёр далёкі родзіч Тараса — Антон Рафалавіч Янкоўскі. Фёдар Міхайлавіч (Янкоўскі) яго ведае. Ён без адукацыі, але вельмі цікавы быў чалавек. Ён цікавіўся ўсёй беларускай гісторыяй, шмат пісаў пра гэта, шчыра любіў Браніслава. Браў вялікі ўдзел пры ўстаноўцы ў Вільні мемарыяльнай дошкі на доме, дзе жыў Тарас ад 1924 да 1926 года. Здаецца, што дзякуючы яму школу ў Лаварышках назвалі імем Тарашкевіча. Ён меў шмат запісаў пра гэта, але дзе яны? Хіба ва ўдавы яго Настанькі Янкоўскай у Адамчуках, ці ў яго сына ў Вільні. Іхныя адрасы хіба ведае М. О. Багдановіч.

Першы, хто азваўся ў прэсе аб Тарасе ў 1958 г. быў А. І. Мальдзіс. І аб Грамадзе напісаў. Тады А. С. Ліс пастараўся. І вельмі дакладную біяграфію падала ў сваіх кнігах Аляксандра Рыгораўна Бергман з Польшчы.

Пра жыццё Тарашкевіча ў Маскве ад 1933 года ведае Ніна Аляксандраўна — другая жонка Тараса, а пра яго апошнія дні — С. П. Шушкевіч.

Калі і як будзе арганізавана тэлеперадача, Вы, хіба, мне напішыце. Калі ласка! Хачу, каб мы з дачкой яе не прапусцілі.

Мне ўжо 86 гадоў і 6 гадоў я далей свайго саду не кратаюся. А ці мае ўспаміны нечага вартыя? Усяго Вам добрага. З павагай В. Ніжанкоўская".

P.S. Тарас нарадзіўся 20.1.1892 г. У Маскве яго арыштавалі 6.5.1937 г., а даканалі 29.11.1938 г. Афіцыйную даведку я атрымала такую: "Памёр ад пароку сэрца 22.2.1941 г." Мой тэлефон у Радашкавічах: 95-187".

На вялікі жаль, спадарыня Вера з дачкою не дачакаліся тэлеперадачы. Сцэнарый зноў не быў прыняты: Тарашкевіча забывалі, "як і многіх іншых змагароў".

Яна пры сустрэчы хітала галавою, а я ўсё абяцаўся надрукаваць яе допісы. Не стала Веры Андрэеўны 7 траўня 1998 года (праз двое летаў ёй споўнілася б — 100!). За свой век яна паспрыяла сотням людзей — усім, хто звяртаўся да радашкавіцкага крыніцазнаўства.

**Сяргей ПАНІЗНІК**

Беларусь нарэшце атрымала ад кандыдата філалогіі Петраградскага універсітэта Браніслава Тарашкевіча першую беларускую граматыку для школ. Гэта была вялікая падзея ў новай гісторыі Беларусі. Мне пашчасціла ў васьмідзесятых гадах дакрануцца да рукапісу Тарашкевічавай граматыкі. Гэта, я вам скажу, незвычайнае адчуванне: гартаеш рукапіс і нібыта бачыш, як нараджалася, стваралася адна з найважнейшых нашых кніг. Найперш прываблівае Тарашкевічава каліграфія. Яна класічная — чытэльная, выразная. Літаркі роўненькія, круглаваценькія. Ад іх праменіцца цяплом, шчырасцю. А нават замілаванасцю. Адчуваецца, праца гэтая якраз так і пісалася. Фармулёўкі правілаў жывыя. Такія ж заданні, практыкаванні. Колькі ж трэба было пералапаціць Браніславу Тарашкевічу самай рознай літаратуры, каб выбраць тое адзінае, што, як яму здавалася, адпавядала духу і ладу нашае мовы. А чаго каштавала яму выпрацоўка граматычных тэрмінаў! Ён жа не меў пад рукою ніякіх ранейшых беларускіх узораў. А знайшоў! І дакладна такія, якімі мы карыстаемся і сёння!

Ёсць пры рукапісе і старонкі з праўкамі, удакладненнямі, нават з малюнкамі. Так, прыкладам, на адной са старонак, дзе гаворыцца пра скланенні назоўнікаў, Тарашкевіч чамусь намаляваў бот.

Рукапіс захоўваецца ў Віленскай фундаментальнай бібліятэцы Акадэміі навук — гэта, безумоўна, добра, нават выдатна. Але не менш цікава пачуць хоць якое слоўка пра беларускую граматыку Тарашкевіча і ад той, што жыла з аўтарам гэтае граматыкі.

"...Бронікава граматыка перавыдавалася некалькі разоў, — згадвала аднаго разу спадарыня Тарашкевічыха. — Адну з іх, 1929 года, дапамагала перавыдаваць і я. Бронік у 1928 годзе сядзеў у астрозе. Там ён дасканаліў папярэднія выданні свае граматыкі. Я была пасрэдніца між Бронікам і выдавецкай суполкай: чытала карэктуру, насіла іх з астрога ў выдавецтва, вяртала Броніку зноў... Так што граматыка 1929 года выдання — гэта трошкі і мая граматыка... Я ж беларускім граматыкам у школах ды гімназіях не вучылася. Тады і падумаць пра гэта не кожны мог, не тое што вучыць. Але, бачыце, і размаўляю няблага, і пішу больш-менш пісьменна. Нават адчуваю і заўважаю, калі нехта пабеларуску хібіць. Гэта ўся мая вывучка з тае пары, калі дапамагала Броніку рыхтаваць да выдання ягоную граматыку 1929 года...

Якраз падчас нашае гаворкі са спадарыняй Тарашкевічыхай у мяне з сабою была згаданая граматыка 1929 года, яе факсімільнае выданне. Колішняя Браніслававa жонка ўзяла яе ў рукі, ласкава пагладзіла па вокладцы і сказала: "Мая!" Я папрасіў аўтограф. Просьбу маю яна задаволіла. Аўтограф той абрывісты, рваны, няроўны — вочкі ўжо слаба свяцілі і бачылі.

Пасля спадарыня Вера расказвала пра далейшы лёс свайго Броніка. Менавіта расказвала, распавядала, як яно ўсё было, што яна перажыла. Але ні слова абурэння. Толькі шкадаванне, як паламалі лёс усёй яе сям'і, не далі ўсім — ні яе Броніку, ні сыну Славіку, ні яе братам, ні дзядзьку Сашу — разгарнуцца на поўную моц, усіх дачасна звялі з белага свету. Ад усіх іх толькі засталася Граматыка Роднае Мовы, створаная дарагім ім Чалавекам у "назіданіе", як сказаў Купала "Маладому беларускаму пакаленню".

## ТАРАШКЕВІЧАВА НАСЕННЕ

Поблізу Уласаўскае Мігаўкі ёсць два невялікія селішчы — Шалухі і Максімаўка. Максімаўка калісь належала Сніткам. То там часта быў і Бронік Тарашкевіч. А ў Шалухах жыў калісь Метода Лаўрэль са сваёй маладой гаспадынькай. Аднаго разу ім давялося позна ўвечары вяртацца ў свае Шалухі. Мінулі яны тую Максімаўку. Ідуць праз лес і аж бачаць — паперадзе іх свецяцца агеньчыкі. "Няйначай ваўкі! — падумалася ім. Наважыліся вярнуцца ў Максімаўку — ці перачакаць, ці якой іншай рады даць тым ваўкам: са стрэльбы стрэліць ці яшчэ як іх спужнуць. Аж там Бронік. Расказалі запозненыя падарожныя яму пра тыя агеньчыкі ў лесе. "Не можа быць, каб у Максімаўцы ды ваўкі! — задзівіўся ён. — Давайце я вас правяду!" І пайшоў з імі. Аж падышлі бліжэй да тых агеньчыкаў, а там проста сядзелі людзі пры цяпельцы.

От такая няхітрая але жывая згадка пра Тарашкевіча. Мо б я яе ніколі і не прыгадаў, калі б не адзін цікавы момант. Сын таго Методы Лаўрэля, які распавядаў пра сваю стрэчу з Тарашкевічам у Максімаўцы — Яўген, праз шмат гадоў таксама станецца аўтарам аднаго з падручнікаў па роднай мове. З тых жа мясцінаў і яшчэ адна аўтарка падручніка па мове. Гэта Галіна Мыцык. Яна ў 2000 годзе ў суполцы са спадаром С. Аляксандравым падрыхтавала арыгінальны дапаможнік для тых, хто жадае вывучаць нашу мову самастойна. Той дапаможнік так і называецца — "Гавары са мною па-беларуску".

От такое Тарашкевічава насенне. От такі ягоны след у тым куточку, дзе Шалухі, Валодзькі, Максімаўка, Уласаўская Мігаўка.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

ПАМЯЦЬ

# Застанецца ў нашых душах і сэрцах

На 51-ым годзе пайшоў з жыцця артыст Уладзімір Корпусь... Ён працаваў у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі з 1991 года, фактычна з моманту яго заснавання. Творчы шлях У. Корпуся праходзіў праз Магілёўскі, Калінінградскі, Сяміпалацінскі, Акцюбінскі, Кастрамскі абласныя драматычныя тэатры, а таксама Ірбіцкі драматычны тэатр, Рэспубліканскі драматычны тэатр Марыйскай АССР, Рускі тэатр імя М. Горкага ў Мінску. Сярод яго творчых здабыткаў прыгадаем ролі Тыбальда і Меркуцыо ў "Рамэа і Джульеце", Скацініна ў "Недаростку", Нешчасліўцава ў "Лесе". У Тэатры беларускай драматургіі У. Корпусь бліскуча выканаў ролі Панаса ў спектаклі «Паваліўся нехта», Бацькі ў спектаклі «Брат мой, Сымон", Шыта ў "Узлёце Артура Уі...", Кміты ў "Барбары Радзівіл", Міліцыянера ў "Прыватным сектары", герцага Бэкінгема ў "Рычардзе", Доктара ў спектаклі "Жанчыны Бергмана". Гледачам Уладзімір Васільевіч быў таксама вядомы па сваіх кінематаграфічных работах: "Зала чакання", "Happy end", "Пакуль мяне нясуць ногі" і іншых... Гэта быў таленавіты акцёр і добры чалавек. Памяць пра яго назаўсёды застанецца ў нашых душах і сэрцах.

**Тэатр беларускай драматургіі**

# Бывай, Толя Давыдаў...

## ТЭЛЕГРАМА НА УКРАІНУ

Званок з Кіева, з "Барвінка". Радасць ахоплівае душу, бо сябры прарваліся на сувязь, як з космасу, з далёкай планеты. Так жывём цяпер.

Але на гэты раз званок сумны. Нечакана памёр Анатоль Давыдаў, вядомы ўкраінскі пісьменнік, былы галоўны рэдактар "Барвінка".

Толя, Толя, дарагі Анатоль Іванавіч...

Мы, усе вясёлкаўцы, помнім цябе вясёлым, усмешлівым, добрым, непаседлівым. Колькі разоў мы збіраліся рэдакцыямі на мяжы Украіны і Беларусі, як хораша і міла, пад перашэпт бяроз, вялі зацікаўленыя гаворкі пра дзяцей, пра часопісы і творы для іх. Нас аб'ядноўвалі песні, паэзія, сяброўскія пачуцці і тая Божая адказнасць за ўсё ўзвышанае на зямлі.

Толік, кажуць, ты ішоў на электрычку. Ступіў крок да яе, і сэрца тваё прыпынілася. Ты ішоў. Ты хацеў ехаць. Ты любіў рух, жыццё, людзей. Мы плачам па табе, наш незабыўны ўкраінскі сябра. І ніяк не верыцца, і ніколі не змірымся з тым, што ты ўжо ў вечнасці, у нябёсах.

Анатоль Іванавіч, ты ў нашых сэрцах, ты ў сваіх кнігах "Знай, любі, беражы", за якія атрымаў прэмію Лесі Украінкі і падарыў нам з добрымі пажаданнямі на вечную "спілку". Адна твая кніжка, "Блакітны патруль", перакладзена на беларускую мову і выдадзена ў "Юнацтве". Яе чытаюць дзеці Беларусі.

Яшчэ, здаецца, зусім нядаўна ты званіў у "Вясёлку" з новай сваёй работы. Запрашаў на адпачынак у Крым. Толік, Толя, чаму ж не дачакаўся сяброў, паспяшаўся сам на вечны спачын?..

Мы смуткуем па табе, Анатоль Іванавіч. Мы перадаём праз дзяржаўную мяжу нашы спачуванні тваёй жонцы, дзецям, унукам. Ты будзеш у нашых сэрцах, пакуль б'юцца нашы сэрцы. Бывай, дарагі ўкраінскі сябар Толя Давыдаў. Хай пухам будзе табе ўкраінская зямелька, якую ты бязмежна любіў і шанаваў.

**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**Мікола МАЛЯЎКА,**
**Мікола ЧАРНЯЎСКІ,**
**Тамара ТАРАСАВА,**
**Яўген ЛАРЧАНКА,**
**Казімір КАМЕЙША**

# Яму было б шэсцьдзесят

Так сталася, што ўсё сваё жыццё Генадзь Сакалоў-Кубай звязаў з родным Мінскам. Тут ён адчуў вялікую духоўную патрэбу працаваць на аўтарытэт беларускай культуры, знайшоў верных сяброў, аднадумцаў. Усім нашым землякам, што звязаны з культурным жыццём Беларусі, добра вядома імя гэтага знанага мастацтвазнаўцы, этнолага, выкладчыка Беларускага універсітэта культуры і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Ён быў вельмі шчыры, захоплены ідэямі нацыянальнага адраджэння дзеяч культуры. У жыцці Г. Сакалоў-Кубай не імкнуўся да асабістай уладкаванасці, не ствараў сабе прэстыжны імідж, а проста шчыра працаваў: чытаў лекцыі, наладжваў пленэры народных разьбяроў, пісаў шматлікія артыкулы, быў сябрам Таварыства беларускай мовы. Яго хапала на дзесяткі спраў. Ён разумеў, што, паводле біблейскай мудрасці, трэба засяваць зерне на ўрадлівай глебе. Таму не шкадаваў часу на працу з творчай моладдзю, народнымі майстрамі, студэнтамі. І настане неўзабаве час, калі яго шчырыя мары пра вялікі росквіт беларускай культуры стануць рэальнасцю.

У 1998 г. Г. Сакалова-Кубая не стала. Але справа ягонага жыцця не спынілася. Плённа працуе ў мастацтве выцінанкі паппечніца, жонка Ніна Сакалова-Кубай, у Беларускай акадэміі мастацтваў вучыцца дачка Яня. А яго шматлікія вучні ўжо скончылі ВНУ і, адчуваючы сваю адказнасць за будучыню нашай культуры, як кажуць, не апускаюць рукі. Хоць час зараз цяжкі, але яны шануюць сваю сённяшнюю творчую незалежнасць, як вучыў настаўнік, не разменьвацца на дробязі, не шукаць залішніх матэрыяльных выгод. Прыклад Г. Сакалова-Кубая вучыць, што трэба ісці паперадзе свайго часу і не чакаць "найбольш спрыяльных умоў".

Сярод здабыткаў, якія пакінуў нам Генадзь, трэба згадаць выдатны вопыт наладжвання творчых рэспубліканскіх семінараў па адраджэнні розных відаў народнага мастацтва. Мастацтвазнавец-першапраходца пачаў шукаць творчыя і навуковыя сувязі з краінамі Прыбалтыкі і быў адным з найлепшых знаўцаў гэтага рэгіёна. Тэма — актуальная і для новых шматлікіх даследчыкаў. Яму належыць ініцыятыва стварэння курса лекцый па этнагенезу беларусаў, што дазваляе мастакам творча мадэрнізаваць розныя забытыя спадчынныя каштоўнасці. За што б ні браўся гэты шчыры наватар, усё рабіў па-маладому захоплена, самаахвярна, вось таму яго эстафету пераняглі маладыя, няскораныя ды нязломленыя прагматызмам творцы.

**Я. ШУНЕЙКА**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне Анатолю БАРОЎСКАМУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці**

ПАМЯЦЬ

# "Беларусь – Айчына, любая краіна"

Успамінаюцца незабыўныя дні 200-гадовага юбілею А.С.Пушкіна, калі ўся сусветная культура аддавала даніну павагі рускай музе і бессмяротнаму генію. Праз некалькі дзён пасля афіцыйнага святкавання ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі адбылася вечарына «Беларуская паэзія-99», якая ператварылася ў нефармальны працяг юбілейнага сходу і стала прыкметнай падзеяй у культурным жыцці сталіцы.

Нягледзячы на спякоту, залу цалкам запоўнілі знакамітыя беларускія паэты, вучоныя, супрацоўнікі НАН Беларусі, Вышэйшага атэстацыйнага камітэта, навучальных устаноў, літаратурных музеяў, сябры творчых саюзаў, аматары цудоўнай лірыкі. Яны не ашукаліся ў сваіх спадзяваннях. Узнагародай прысутным сталіся высокая паэзія, майстэрства вакальнай джазгрупы «Камерата», юнай скрыпачкі К.Хвашчынскай разам з бацькам-кампазітарам, жывое слова карыфеяў і пачынаючых талентаў.

Галоўнай дзеючай асобай, героем вечарыны з'яўляўся прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі Генадзь Рымскі. Ён і Асацыяцыя творчай інтэлігенцыі «Духоўнае адраджэнне» запрасілі гасцей на прэзентацыю вершаванага зборніка «Белорусская лирика XIX — XX веков» у яго перакладах, які выйшаў напярэдадні 1999 г. у маскоўскім выдавецтве «Русский двор» пры Літаратурным інстытуце імя М.Горкага.

Генадзь Васільевіч на памяць чытаў свае пераклады многіх вершаў Я.Коласа, М.Багдановіча, Р.Барадуліна, Г.Бураўкіна, Н.Гілевіча, В.Зуёнка, А.Вярцінскага, С.Грахоўскага, П.Броўкі, П.Панчанкі, У.Някляева, Р.Баравіковай, А.Куляшова, В.Аколавай, Э.Акуліна, А.Пісарыка. Паэты адзначылі высокую якасць перакладаў Генадзя Рымскага, яго непрыхаваную любоў да беларускай паэзіі і Беларусі. Яны чыталі на мове арыгінала свае творы, апублікаваныя ў «Белорусской лирике XIX—-XX веков», а таксама зусім новыя. Прысутныя маглі параўноўваць аўтарскую задуму, змест і мелодыку вершаў і іх пераўвасабленне на рускай мове. Пры гэтым перад чытаннем перакладаў чарговага аўтара Генадзь Васільевіч некалькімі трапнымі арыгінальнымі фразамі гаварыў аб сваіх адносінах да яго твораў і чым яны яго ўразілі. Так, творы Я.Коласа ён лічыў найбольш блізкімі стылю, почырку, музыцы вершаў Пушкіна.

***О, родной край,***
***край пригожий!***
***Милый край моих дедов!***
***Что милей на свете божьем***
***Этих светлых берегов.***
***Серебром где льются речки,***
***Где леса-боры растут,***
***Пахнет медом, сеном, гречкой,***
***Разговор поля ведут...***

Г.Рымскі стараўся глыбока пранікнуць у сутнасць коласаўскай ідэі, часта разам з яго малодшым сынам М.Міцкевічам добрым, мудрым чалавекам, дасціпным літаратарам, доктарам тэхнічных навук, лаўрэатам Дзяржпрэміі Беларусі, наведваў коласаўскія мясціны, каб адчуць аўру і дух яго твораў.

Атмасфера асаблівай сардэчнасці і цеплыні панавала ў зале, якая горача прыняла выступленні паэтаў Г.Бураўкіна, А.Вярцінскага, С.Грахоўскага, Р.Баравіковай, А.Пісарыка. Сяргей Іванавіч Грахоўскі прызнаўся: ён не адразу паверыў у тое, што так па-майстэрску перастварае з беларускай мовы на рускую. «Перакладчыкам паэзіі можа быць толькі паэт, таленавіты, высокай кваліфікацыі, знаўца абедзвюх моў, пераўвасабляючы творы, блізкія яму па духу, ладу і складу, грамадзянскай пазіцыі і філасофскай сутнасці. Такім з'яўляецца паэт Рымскі. У яго перакладах нідзе не адчуваецца, што гэта пераклад: кожны радок гучыць натуральна, дакладна, вобразна і мілагучна. Валоданне словам беларускім і рускім — выдатнае», — так выказаўся аўтар каля шасці дзесяткаў кніг паэзіі, прозы, успамінаў, перакладаў, чалавек, які даў разам з В.Зуёнкам блаславенне Г.Рымскаму як самабытнаму перакладчыку.

Прыцягваў увагу адухоўлены, бледны твар паэта, яго інтэлігентнасць, сціплыя манеры: з уласных твораў ён не прачытаў ніводнага, хаця і ў прэзентуемай кнізе, і раней іх апублікавана нямала, у тым ліку пад псеўданімамі Г.Корсакаў, Г.Фалееў. Гэта заўважылі ўсе, і акадэмік-сакратар аднаго з аддзяленняў НАН Беларусі І.Ліштван крыху выправіў сітуацыю, з відавочным задавальненнем прывёўшы ўрыўкі з вершаў Г.Рымскага, якія яму асабліва спадабаліся лірычнасцю і шчырасцю:

***Белоруссия! Край мой***
***туманный! -***
***Стройность сосен***
***и речки дугой...***
***Бесконечно родной и желанный,***
***Сердцу так глубоко дорогой.***

Старшыня ВАКа акадэмік А.Дастанка расказаў пра Г.Рымскага як буйнога вучонага ў галіне кібернетыкі і інфарматыкі, педагога, начальніка аднаго з важнейшых аддзелаў Вышэйшага атэстацыйнага камітэта, які стварыў і наладзіў работу гэтага аддзела, шэрагу экспертных саветаў. А.Дастанка падтрымаў яго працу над паэтычнай кнігай і папрасіў садзейнічаць яе публікацыі ў Маскве вядомага расійскага вучонага і літаратара, прафесара М.Расолава, беларуса па паходжанні, аўтара раманаў «Исполнитель», «Августовский звездопад», «Трудное перепутье», «На земле белых рос», зборніка апавяданняў «Дерево добра и зла» і іншых твораў. М.Расолаў, з дапамогай якога ў вёсцы Ціхінічы пабудавана царква, а ў мясцовай школе прапісалася унікальная калекцыя палотнаў сучасных мастакоў, напісаў кароткую, але дынамічную прадмову да зборніка.

З далёкага Глен Кова (ЗША) прыслаў водгук паэт беларускага замежжа М.Сяднёў (з пісьма да Лідзіі Савік): «Цікавы і самы адбор вершаў для перакладу. Важна, што пры перакладзе вершы не страцілі свайго духу, свайго пафасу». Яго ж словы, адрасаваныя перакладчыку, гучаць больш адмыслова: «Адзін мой знаёмы прызнаўся мне, што ў Вашым рускім перакладзе беларускія паэты выглядаюць прыгажэй, не выпускае з рук Вашай кнігі, якую я пазычыў яму. Вось якая Вам заплата за Вашу натхнёную працу...».

Гэты вечар захаваўся ў памяці многіх прыхільнікаў беларускай лірыкі, а для Г.Рымскага ён стаў шчаслівым днём грамадскага прызнання яго як паэта. У яго асобе спалучаліся вучонасць, рамантыка, неабдымнасць чалавечай душы, строгасць матэматычных формул і дасканаласць паэтычных строф.

***Мир поэзии —***
***гений искусства,***
***Бездна необъяснимых***
***страстей,***
***Сплав фантазии,***
***жизни и чувства,***
***Мысли, музыки, слов и идей.***

...І толькі адзінкі ў зале ведалі, што Генадзь Васільевіч ужо паўгода прымае інтэнсіўную тэрапію ў Беларускім НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі. Вечарына прыпала на перапынак між сеансамі стацыянарнага лячэння. Помніцца і сёння, як у снежаньскую нядзелю 1998 г. патэлефанаваў Генадзь Васільевіч. Сказаў лаканічна: «Заўтра з раніцы кладуся ў Бараўлянскі інстытут. Рэцыдыў хваробы, асабліва распаўсюджанай сярод беларусаў пасля Чарнобыля. На гэты раз у іншым месцы. Ды з ускладненнямі... Кнігу маю (Генадзь меў на ўвазе «Белорусскую лирику XIX — XX веков». — **М.С.**) з надпісам табе перададуць у інстытуце (Інстытут тэхнічнай кібернетыкі НАН Беларусі. — **М.С.**). Дзякуй табе і Лідзіі за падтрымку і натхненне на гэту кніжную працу...». Ад нечаканасці паведамлення, яго мужнай стрыманасці я не мог знайсці патрэбных слоў: камяк у горле не даваў мне гаварыць. І ўсе ж падбадзёрыў Генадзя: «Трымайся! Не губляй надзеі і не скарайся... Калі зможаш, працуй і ў шпіталі».

...У наступныя шэсць дзён пасля той паэтычнай вечарыны на руках у Генадзя Васільевіча былі тры рэкамендацыі ад С.Грахоўскага, В.Аколавай, М.Кенькі, неабходныя для ўступлення ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

На трэці дзень пасля атрымання членскага білета ў пачатку ліпеня 2000 года Генадзь Васільевіч разам з жонкай Маргарытай паляцелі ў ЗША, дзе яму абяцалі бясплатнае лячэнне ва універсітэцкай клініцы. З сабою былі медыцынскія дакументы. Там ён прайшоў тамаграфічнае абследаванне, яшчэ некалькі дадатковых аглядаў і кансультацый. Пачуў прысуд: урачы бездапаможныя... Яны правядуць умацавальную тэрапію, каб хапіла сіл вярнуцца на Беларусь, а цуду медыцына зрабіць не можа.

Астатнія дні свайго трэцяга знаходжання ў Амерыцы Генадзь Васільевіч прысвяціў сям'і дачкі Алены, якая там жыве і працуе, а таксама экскурсіям.

...Праз дзесяць дзён пасля вяртання з Амерыкі, якой ён прысвяціў шмат старонак у вершаваным рамане «Поэзия науки», Генадзя Васільевіча не стала. Перад тым зноў у нядзелю быў ад яго званок. Праз кашаль і цяжкае дыханне ён прамовіў: «Падводжу рахункі. Саша (сын Г.Рымскага. — **М.С.**) перадасць дыскетку з патрэбнымі для цябе матэрыяламі. Кладуся заўтра ў Бараўляны...». Дарэчы, і там яго ведалі ўсе супрацоўнікі, вывешвалі яго публікацыі, чыталі кнігу.

У мінулым годзе выйшлі з друку чатыры тамы яго твораў. Г.Рымскаму ўдалося ўславіць Беларусь, яе паэзію ў гістарычным развіцці ад пачынальнікаў да апошняй генерацыі маладых аўтараў. Чым аддзячыць яму Беларусь за такую самаахвярную, патрыятычную працу?

**Мікола САВІК**

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІК
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"
ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19



ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-7985
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-8462
фота-карэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462
Тэл./факс — 284-7965



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2601
Нумар падпісаны ў друк 24.01.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 473

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"



# Табліца Мандзялеева-Яраца ў беларускай паэзіі

Прачыталі ў "Маладосці" (№ 9) артыкул В. Яраца "Прэлюдыя да спрэчкі" і хочам абвясціць аўтару падзяку за аказаную нам, выкладчыкам літаратуры, метадычную дапамогу. Складзеная ім паводле паэтычнай атамнай вагі Табліца паэтаў значна спрашчае справу, заблытаную школьнымі падручнікамі і акадэмічнымі манаграфіямі. Цяпер гэту Табліцу, як усякую сістэму, можна закласці ў камп'ютэр — і ўсё адразу становіцца зразумелым: хто чаго варты, з чыёй творчасцю трэба знаёміць вучняў, а з чыёй неабавязкова. Напрыклад, усім нам так пратрындзелі вушы прозвішчам Дранько-Майсюка, што мы пачалі рыхтаваць у школе сустрэчу з ім. І вось высвятляецца, што стомлены Парыжам паэт — 96-ы ў Табліцы Мандзялеева-Яраца! Значыць, трындзелі дарэмна. І навошта нам з ім сустрэча!? Але! Але калі Табліца ў камп'ютэры перавернецца дагары нагамі — дык на першым месцы ў ёй апынецца... В. Ярац! А на пятым — Дранько-Майсюк! Гэта ж выдатна! Перавярнуў — і тым, каму было крыўдна, — ужо не крыўдна, бо яны — параперадзе. Быў, напрыклад, на другім месцы Максім Багдановіч, перавярнулі — стаў на ім Мікола Мятліцкі, а Багдановіч — 99-ым... У горшым становішчы тыя, што нумаруюцца пасярод Табліцы — А. Сыс, Л. Галубовіч, К. Камейша, В. Вярба, У. Някляеў: *як ні варочай Табліцу* — яны у пярэднія не выйдуць, застануцца пасярэдзіне. Вось ім крыўдна. Асабліва Сысу. Раілі б В. Ярацу, ведаючы натуру Сыса, не пападацца яму на вочы.

Нарэшце, ёсць у нас адна практычная і, здаецца, неблагая прапанова. Трэба, каб кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў вырабіла бірачкі з нумарамі і абавязала ўсіх жывых паэтаў і паэтак насіць паверх портак ці спадніцы на правым баку бірачку. Выгадна будзе і чытачам, і ў рэдакцыях перыядычных выданняў: зайшоў да рэдактара паэт — а на бірачцы нумар аж 85! Ну вядома, слабак ці і зусім графаман, пайшоў прэч!

І яшчэ. У вядомай Перыядычнай сістэме Мендзялеева — 105 элементаў. Варта, дзеля адпаведнасці, і ў Табліцу Паэтаў далучыць хоць якіх пяць прозвішчаў, а канкрэтна: А. Пісарык, В. Грышановіч, А. Лягчылаў, І. Курбека, М. Вяршынін. Праўда, гэта будзе не даспадобы Ярацу, бо ў такім разе, як Табліца перавернецца, на першым месцы апынецца ўжо не ён, а Вяршынін.

І апошняе: ці не ўзяўся б хто скласці падобную табліцу і ў беларускай прозе? У тых жа мэтах пра нас, выкладчыкаў роднай літаратуры, дбаючы?

І ўжо зусім апошняе. У сваім артыкуле В. Ярац піша, што пра яго Табліцу, цытуем: "прамаўчаць, нічога не скажуць *з таго свету* Канстанцыя Буйло і Ніна Тарас..." Ну чаму ж так катэгарычна: "прамаўчаць і не скажуць"!? Канстанцыя Антонаўна, на жаль, не скажа, а Ніна Міхайлаўна — скажа. Абавязкова скажа! І аўтару артыкула, і хлопцам з "Маладосці": "Ах, мае мілыя сябручкі! І чаго ж вы так спяшаецеся хаваць жывых? *Прыходзьце ў госці, пачастую* гарбаткай, новыя вершы пачытаю вам. Дарэчы, мая гарбатка на травах, якія вельмі памагаюць ад склерозу і матыліцы. А за "той свет" я не пакрыўдзілася, гэта прыкмета, што доўга жыць буду".

**Настаўнікі Забалоцкай школы А. ХІЛЬКА, Б. ХІЛЬКА і іншыя**